Адна зямля
Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашмяны
Маладзечна
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 канал

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

23 студзеня 2015 года №4 **(1030)**

**12 яўрэяў хавалі ад фашыстаў на печы**
Сын Праведніка свету ўпершыню распавядае, як яго сям'я ратавала Хеўліных
старонка 21

**Месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2015 год**
Садоўніцтва і агародніцтва ў залежнасці ад фазы Месяца. Квадры Месяца
старонкі 6, 19

**Расклад руху цягнікоў па станцыі Маладзечна**
с. 14

**Асвяцілі помнік гісторыку Міхасю Чарняўскаму**
с. 2

**Замест айфона маладзечанцу поштай даслалі правады**
с. 4

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Аўтапарк уводзіць дадатковыя "двойкі"

**ВІЛЕЙКА.** Ад 24 студзеня па выхадных днях у Вілейцы з'явяцца дадатковыя рэйсы па маршруце №2 Стаўкі-Карвелі праз вуліцу Валынца. "Уводзяцца яны ў якасці эксперыменту. Калі будзе пасажырапаток, то дадатковыя рэйсы будуць ажыццяўляцца і надалей", – расказала вядучы інжынер аддзела перавозак філіяла "Аўтобусны парк №5" "Мінаблаўтатранса" **Тамара Субач**. Ад Ставак "двойка"адпраўіцца ў 7:26, 9:20, 10:40, 12:20, 13:40. Ад прыпынку "Карвелі" аўтобусы маршруту №2 паедуць у 8:10, 10:05, 11:25, 13:05 і 14:23.

### Канфіскавалі 3,5 кіламетра сетак

**МЯДЗЕЛ. ВІЛЕЙКА.** За 2014 год у Мядзельскім і Вілейскім раёнах выявілі 177 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. Канфіскавалі 385 прыладаў незаконнай здабычы рыбы. У тым ліку 68 рыбалоўных сетак. Іх агульная даўжыня – больш за тры з паловай кіламетры. Канфіскавалі 282 кілаграмы рыбы, тры адзінкі агнястрэльнай зброі, 28 іншых прыладаў палявання. Распачата сем крымінальных спраў. Пра гэта паведаміў **Валянцін Галубовіч,** намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

### Адновяць старадаўнія сядзібы

**АШМЯНЫ.** Ашмянскі раён прэзентаваў інвестпраекты, звязаныя з адраджэннем старадаўніх сядзібаў. Сярод іх былы маёнтак Лейбы Стругача ў Ашмянах і старадаўні маёнтак графа Чапскага. Ён знаходзіцца ў вёсцы Навасёлкі. У інвестпраекце паказаны кошт аднаўлення маёнтка Стругача – 120 тысяч еўра. На месцы маёнтка графа Чапскага інвестарам прапануюць 4 гектара зямлі, дзе можна размясціць забаўляльны цэнтр, гасцявыя домікі, рэстаран. Кошт інвестпраекта – да 500 тысяч еўра.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Алега ЛІСА.

На балі ў Агінскага кожны знайшоў сабе справу па душы. Нехта гуляў у фанты, хтосьці слухаў музыку, а некаторыя аддалі перавагу гульні ў віст.

# Сцэнар балю Агінскага ў Залессі спісалі з "Вайны і міру"

**СМАРГОНЬ. Станцаваць мазурку, абыграць карнета ў віст і разглядзець намёк прыгожай дамы ва ўзмаху яе веера была магчымасць у тых, хто 17 студзеня наведаў першы дабрачынны баль у музеі-сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі.**

Пра падрыхтоўку да балю, само мерапрыемства і калі смаргонцам і гасцям горада давядзецца яшчэ раз прымераць на сябе ўборы пазамінулага стагоддзя "Рэгіянальнай газеце" расказала адна з арганізатараў балю дырэктар дабрачыннага фонду "Паўночныя Афіны М.К. Агінскага" **Ала Шыцікава**.

Студзеньскім суботнім вечарам у музей-сядзібу прыехала каля 80 гасцей. І каб не фотаапараты, тэлефоны і камеры, якія выдавалі тое, што дзеянне адбываецца усё ж у XXI стагоддзі, па ўборах гасцей можна было падумаць, што вось-вось на парозе сядзібы з'явіцца сам гаспадар Міхал Клеафас Агінскі і запросіць дарагіх гасцей унутр.

**Наступным мерапрыемствам, якое пройдзе ў Залессі, будзе фестываль батлеечных тэатраў. Ён адбудзецца 21-22 сакавіка.**

Нягледзячы на тое, што падрыхтоўка да балю пачалася яшчэ ў верасні, у дзень правядзення паўсюль панавала імправізацыя. Распарадчык балю скамандаваў пачатак танцавальнай праграмы, і ўсе госці, нават тыя, хто бальныя танцы бачыў толькі па тэлебачанні, па ўзмаху рукі распарадчыка пайшлі танцаваць.

Як прызналася Ала Шыцікава, яна таксама ўдзельнічае і рыхтуе такое мерапрыемства ўпершыню, таму ўвесь сцэнар балю, які, дарэчы, доўжыўся чатыры гадзіны, падглядзелі ў Льва Талстога, у яго рамане "Вайна і мір". Таму і баль у Залессі працаваў па прынцыпе салонаў. Ахвотныя маглі наведаць літаратурны або гульнявы салон. У гульнявым гасцей вучылі гуляць у старажытную картачную гульню віст.

**Усе госці на балі размаўлялі на беларускай мове.**

Паколькі баль быў дабрачынным, напрыканцы свята зладзілі дабрачынны аўкцыён. На ім у якасці лотаў прадставілі вырабы мясцовых мастакоў і рамеснікаў. Самы дарагі лот каштаваў 600 тысяч рублёў. Ім была рэпрадукцыя карціны Леанарда Ходзькі "Залессе". Набыў яе прадпрымальнік са Смаргоні **Сяргей Залескі**.

Грошы ад аўкцыёна і білетаў пералічаныя ў фонд "Паўночныя Афіны" і пойдуць на набыццё новых экспанатаў у музей-сядзібу Агінскага.

Балі ў Залессі плануюць праводзіць рэгулярна. Але ці будзе восенькі, прымеркаваны да дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага, гаварыць пакуль рана. Яшчэ не адгучаў паланэз першага, студзеньскага, балю.

**Наталля ТУР.**

ПАМЯЦЬ

# Асвяцілі помнік гісторыку Міхасю Чарняўскаму

**МЯДЗЕЛ. У нядзелю, 18 студзеня, на Мядзельшчыне асвяцілі помнік на магіле Міхася Чарняўскага. Пахаваны ён на радзіме – у вёсцы Круці. Асвячэнне адбылося напярэдадні другіх угодкаў з дня смерці вядомага гісторыка, археолага і ветэрана адраджэнскага руху.**

Надмагільны помнік стварыў скульптар **Алесь Шатэрнік**. На помніку – барэльеф Міхася Чарняўскага, надпіс "Беларусь перадусім".

На асвячэнне з Мінска прыехаў цэлы аўтобус людзей – сваякі і знаёмыя, гісторыкі і літаратары. Падчас вандроўкі па рэгіёне завіталі ў Круці сябры краязнаўчага выдання "Волат" з Вілейкі.

– Грэка-каталіцкі святар айцец **Яўген Усошын** адслужыў малебен ля магілы, – расказаў віляйчанін **Павел Хаванскі**. – Падчас асвячэння словы прамовілі **Уладзімір Арлоў** і ўдава Міхася Чарняўскага, Святлана.

Да помніка ўсклалі кветкі і запалілі лампадкі.

Вілейскія краязнаўцы раздалі выданне "Волат" і паштоўкі, прысвечаныя Міхалу Клеафасу Агінскаму.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Міхась Чарняўскі нарадзіўся 7 сакавіка 1938 года ў вёсцы Круці Мядзельскага раёна.
Як навукоўца Чарняўскага цікавілі матэрыяльная і духоўная культура плямён каменнага і бронзавага вякоў на тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі, першабытнае мастацтва на тэрыторыі Беларусі.
Вывучаў гісторыю Павілля і Нарачанскага краю.
Аўтар навуковых, навукова-папулярных і празаічных твораў. У 2000-я гады выдаў шэраг кніжак, у тым ліку "Як пошуг маланкі" – пра Расціслава Лапіцкага, "Дзесяць бітваў" – пра найбольш значныя для беларускай гісторыі.


Фота Міхася КУЛІША.

Віляйчанін Павел Хаванскі запальвае лампадку на магіле Міхася Чарняўскага.

УСПАМІНЫ

## "Я – белалус". Што Міхась Чарняўскі ўспамінаў пра дзяцінства і юнацтва

**МЯДЗЕЛ. Знаёмім нашых чытачоў з урыўкамі з успамінаў, што Міхась Чарняўскі напісаў да свайго 70-годдзя.**

"Нарадзіўся я ў 1938 годзе ў даволі вялікай і шматлюднай вёсцы Круці на ўзбярэжжы Баторына. Дзядуля па кудзелі быў заўзятым рыбаком, таму нехта пажартаваў, што маці мяне нарадзіла ў лодцы. Але тое выдумкі, бо 7-га сакавіка на Баторыне яшчэ ляжаў моцны лёд. Толькі з'явіўшыся на гэтым свеце, немаўля моцна прастудзілася, і бацькі, каб яно памерла хрышчаным, праз колькі дзён павезлі на санях праз возера ў Мядзельскую царкву. Але пасля хросту я ўвачавідкі акрыяў.

Перад самым прыходам "тых саветаў" бацька, назапасіўшы грошай сталяркай, купіў кавалак зямлі ў маёнтку Гінеўка каля Дзягіляў. Гэта ўратавала яму жыццё, калі прыйшлі немцы. Па нейкім даносе бацьку меліся расстраляць, але начальнік паліцыі ў Слабадзе, выслухаўшы напалоханага хутараніна, заявіў: "Гэты селянін не камуніст, бо ў пачатку 39-га камуністы зямлю ў паноў не купілі, яны спадзяваліся яе ў хуткім часе забраць дарма". І адпусціў да сплаканай сям'і.

### У школу хадзіў праз ланцужкі ваўчыных слядоў

1 верасня 1944 года тата павёў мяне ў першы клас Сцюдзяніцкай пачатковай школы. Дзень быў хмарны і шэры. Перад вёскай абапал дарогі тырчэлі маладыя, пасаджаныя колькі гадоў таму, вербачкі. Яны былі ненашмат вышэйшыя за мяне. У вялікім, так мне тады здавалася, пакоі вясковай хаты стаялі збітыя з дошак сталы з лавамі, так званыя "казлы". На іх і рассадзіла нас маладая настаўніца.

Ад нашага хутара да школы было каля паўтара кіламетра. Зімой прабірацца аднаму па заснежанай дарозе, цёмнымі ранкамі або вечарамі, было і цяжка, і боязна. Асабліва, калі пераступаў праз ланцужкі ваўчыных слядоў. А цёплымі часамі хадзіць гэтым шляхам была асалода.

Бліжэй да Сцюдзяніцы трэба было пераходзіць Курыным мостам рачулку. Рачулку гадоў 300 назад звалі Сцюдзяніцай. Але цяпер, напэўна, ніхто ў вёсцы не памятае пра такую назву, як і не скажа, чаму мост завецца Курыным і чым гэта назва звязаная з карчмой, якая даўнымдаўно стаяла пры недалёкай развілцы дарог на Дзягілі і Пугачы.

### "Вырасцеш – станеш гісторыкам"

Гэты мост быў маім улюбёным месцам прыпынку па дарозе са школы. Заварожвалі цурчанне струменяў на камянях, пераліvы святла, таямнічы паўзмрок пад заімшэлым насцілам.

Аднойчы на мосце прыпынілася брычка, запрэжаная буланым конікам, і седакі запрасілі пад'ехаць. Гэта былі мужчына і жанчына, прыгожыя і ўсмешлівыя, апранутыя па-гарадскому.

**"Якія ў цябе самыя любімыя ўрокі?" – запытаўся мужчына. "Па гісторыі", – не раздумваючы адказаў я. "Вырасцеш – станеш гісторыкам". І гэтае прароцтва спраўдзілася!**

У 49-м пачалася калектывізацыя, і мы сталі калгаснікамі. Бацьку найбольш было шкада каня і гаспадарскага рыштунку, а з зямлёй развітаўся, мабыць, без асаблівага жалю. Хутар наш меў 13 гектараў, але больш паловы займалі балоты, яры ды каркаломныя касагоры. Збольшага прыдатная да сяўбы зямля была такая няроўная, што некаторыя схілы ўзгоркаў гаспадар араў ў адным кірунку, разворваў іх у бок падножжа. І вучыў сваіх сыноў, каб у будучым падобнае рабілі і яны. "Так будзеце араць і вы, а затым вашы дзеці і ўнукі. І так калі-небудзь Чарняўскія зробяць з Гінеўкі ўрадлівую раўніну". Не паспелі. Не зрабілі.

Сваёй зямлі больш не было, нічога цяпер не трымала ў Гінеўцы, і сям'я рашыла пераехаць у вёску, у бліжэйшую да Мядзела, Мікасецк. А я сумаваў па Гінеўцы.

### "Я – белалус"

Напэўна, гэта было ўжо ў Гінеўцы. Я толькі пачаў гаварыць. Бацька, знайшоўшы нейкую вольную хвіліну, торкае мне ў грудзі парудзелы ад самасаду палец і кажа: "Паўтарай за мной: я – беларус, я – беларус". Паўтараю і бянтэжуся, што атрымліваецца – белалус, белалус.

Адкуль гэта было ў бацькоў? Напэўна, паўплывала тое, што суседзі-хутаране называлі сябе палякамі і татарамі, а некаторыя беларусамі. Ды і ў нашых родных Круцях "за палякамі" адчуваўся ўплыў Таварыства беларускай школы. На гэтым памежжы рэлігій і нацыянальных самасвядомасцяў трэба было вызначацца і нашай сям'і.

Наша першая бібліятэка ўзнікла перад вайной і ў першыя дні вайны. Але нямецкая адміністрацыя ў Мядзеле выдала загад: савецкія кніжкі здаць, а ў каго знойдуць – расстрэл. І мама, асабліва не ўдаючыся ў палітычную накіраванасць нашай бібліятэкі, спаліла яе.

Калі я быў у першым класе, бацька прывёз з Мядзела друкаванку – невялікі аркушык кардону з вершам пра бярозку. А потым з'явіліся сапраўдныя кніжкі, і ў мяне з братам пачала збірацца бібліятэчка.

На хутары зімовымі вечарамі ў бацькоў надараўся вольны час. Тады мы ладзілі галосныя чытанні. Чытаў пераважна Міфодзя, пры лучыне, а пазней пры газоўцы. А яшчэ мы ўсёй сям'ёй спявалі – у бацькоў былі прыгожыя галасы. Тата быў рэаліст і прагматык. Маму вылучала рамантычнасць натуры.

### Першыя раскопкі правёў у 9-м класе

З мамінага спалення нашай бібліятэкі цудам ацалела польская дзіцячая кніжка. Яна была без вокладкі і пачатку, але мела малюнкі маленькіх чалавечкаў-красналюдкаў і апавядала пра іх падземнае жыццё. І я пачаў капацца за лазняй на грудку, спрабуючы знайсці ход да гэтых красналюдкаў. Можа, і знайшоў, каб бацька не спыніў і не адправіў збіраць траву парасятам.

Калі ўжо жылі ў Мікасецку і я хадзіў у 9 клас, на суседнім гарадзішчы Чорная гара археолагі з Мінска пачалі сапраўдныя раскопкі. А як паехалі навукоўцы, я самахоць, не ведаючы, што такога нельга самому рабіць, выкапаў на краі гарадзішчанскай пляцоўкі невялікую яму і на дне яе знайшоў жалезны наканечнік стралы. Такога не трапілася тут і археолагам!

Аднак і ў выпускным 10 класе Мядзельскай СШ я вагаўся – кім стаць. Вабілі далёкія вандроўкі і нязведаныя берагі экзатычных зямель. Прыцягвала таямнічасцю і старажытнае мінулае. Але здавалася, каб стаць географам, на ўступных экзаменах ва ўніверсітэт трэба здаваць геаметрыю з матэматыкай. І з гэтым былі праблемы.

А каб стаць археолагам, трэба паступаць на гістарычны факультэт. Гэта маё. І вось летам 1955 года крыты грузавік павёз мяне і іншых хлопцаў і дзяўчат з нашай школы. Гадзіны праз тры паабапал шашы забялелі шматпавярховыя камяніцы вялікага горада. Я ўязджаў у яго, каб падобна героям французскіх раманістаў, заваяваць свой Парыж, які называўся Мінскам.

Падрыхтаваў
**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Калі выбар стаіць паміж салодкім і садавінай, рабіце выбар на карысць здароўя — ешце садавіну.

Фота bodygirl.ru

● ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

# Ешце марудней і менш перакусвайце – будзеце стройнымі

**МАЛАДЗЕЧНА. Людзі, якія няправільна харчуюцца, рызыкуюць набыць сабе праблемы са сном, сардэчна-сасудзістай сістэмай і лішняй вагой. Участковы доктар-тэрапеўт загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення палiклінікі З Жанна Кісель раіць, што есці, каб не мець такіх праблем, і як правільна харчавацца**

Доктар адзначае, што галоўнае, каб харчаванне было разнастайнае і збалансаванае. Есці трэба рэгулярна – тры разы на дзень.

### Перакусы вядуць да паўнаты

– Калі чалавек галодны, то ў яго раздражнёная слізістая абалонка страўніка, парушаецца яго работа, – гаворыць доктар. – Страўнік пачуе больш актыўна, вылучае большую колькасць сокаў, якія павінны ісці на пераварванне ежы. Атрымліваецца, арганізм працуе ўпустую.

Нерэгулярныя прыёмы ежы прыводзяць да застою ў страўніку. Гэта ў далейшым выклікае праблемы з пераварваннем ежы, з пазбаўленнем яе з арганізма.

– Людзі, якія харчуюцца незбалансаванай ежай, а перакусваюць, у большасці выпадкаў ужываюць нездаровую ежу – гамбургеры, чыпсы, булачкі, – заўважае Жанна Кісель. – Гэтыя стравы вельмі смачныя, аднак карысці не нясуць. Вугляводы, якія ёсць у гэтых стравах, накопліваюцца ў арганізме, паступова прыводзяць да праблем з лішняй вагой.

Калі ж чалавек не можа адмовіцца ад перакусаў, лепш з'есці садавіну. Яна адгоніць голад, будзе спрыяць таму, каб не было застою ў страўніку.

### Не ешце хутка – не будзе лішняй вагі

Тыя, хто есць хутка, таксама рызыкуюць мець праблемы з лішняй вагой.

– Не спяшайцеся есці, – раіць спецыяліст. – Тады хутчэй прыходзіць адчуванне насычэння. Галаўны мозг паступова рэагуе, што арганізм сыты. Калі ж чалавек есць хутка, то мозг не паспявае зарыентавацца, таму прыходзіцца з'есці нашмат больш, чым звычайна. Але пасля гэтага прыходзіць адчуванне цяжкасці ў страўніку.

### Правільна спалучайце прадукты

Ноччу адпачываеце самі, значыць, дайце спакой і страўніку. Часта чалавек з перагружаным страўнікам доўга не можа заснуць. Таксама ад начнога пераядання можа сціскацца дыяфрагма, таму сэрца не будзе працаваць на поўную моц.

– Важна правільна спалучаць прадукты. Напрыклад, рыбу і мяса лепш есці з гароднінай, салатамі з яе, – гаворыць спецыяліст. – Гэта паляпшае пераварванне, больш насычае арганізм, змяншае ўзровень халестэрыну. Калі змешваць розныя стравы за адзін прыём ежы, страўніку горш зарыентавацца, ежа пераварваецца даўжэй. А чалавек адчувае цяжкасць.

Ваду, чай, каву лепш не піць у час і пасля яды. Гэта ўскладняе пераварванне. Таму лепш ужываць ваду за гадзіну, паўгадзіны да прыёму ежы.

Не злоўжывайце чаем і кавай, у якіх ёсць кафеін, ад якога можа павысіцца ціск, балець галава.

### Шыпучыя напоі перабіваюць апетыт

– Таксама такія напоі раздражняюць слізістую абалонку страўніка, – сцвярджае Жанна Кісель. – Чалавек адчувае цяжкасць, уздуцце. Асабліва важна прытрымлівацца гэтага правіла людзям, якія маюць праблемы са страўнікам.

Менш ужывайце тлустых страў: смятаны, маянэзу, цвёрдых сыроў. Халестэрын адкладваецца на сценках сасудаў, пасля ад гэтага церпіць сэрца. Мяса лепш ужывайце поснае, курыцу – без скуркі. Гэта простыя правілы, каб пазбегнуць атэрасклерозу сасудаў.

Тым, хто любіць салодкае, медык рэкамендуе замяняць салодкасці сухафруктамі, ягадамі, гароднінай, стравамі з пекцінам – зефір, мармелад.

### На абед можна абысціся без супу

Традыцыйны абед складаецца з першай стравы – супу, другой стравы і кампоту.

– Канешне, першыя стравы карысныя для страўніка. Спрыяюць таму, каб у чалавека не было гастрыту, язвы, – адзначае медык. – Аднак не ва ўсіх атрымліваецца есці іх у абед. Таму смела можна ўжываць толькі другія стравы. А ўвечары з'есці суп.

Калі раніцай доктар раіць есці кашу, каб пачаць работу страўніка, то на абед лепш мясныя стравы, рыба ў спалучэнні з гароднінай. Такая ежа будзе спрыяць лепшай рабоце, дасць сілы да канца дня.

Спецыяліст не раіць есці на абед стравы хуткага прыгатавання – вермішэлі, пюрэ.

– Канешне, больш карысна ўжываць свежапрыгатаваную ежу, – пагаджаецца Жанна Кісель. – Але калі няма выйсця, то гэта лепш, чым страўнік будзе "пераварваць сам сябе".

Стравы хуткага прыгатавання спатрэбяцца тым, хто часта знаходзіцца ў дарозе. Яны псуюцца толькі тады, калі доўга пастаяць прыгатаванымі.

**Галіна СІНІЦА.**

ЛІЧБА НУМАРА

**264**

курыныя яйкі ў год – сярэдняя норма спажывання

Паводле статыстыкі Міністэрства аховы здароўя

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 15.01 | 22.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 010,00 | **14 910,00** |
| Еўра | 17 710,00 | **17 240,00** |
| Злоты | 4 113,68 | **3 993,25** |
| Расійскі рубель | 228,50 | **228,00** |
| Грыўня | 960,86 | **942,48** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 17800/18060 | **17450/17580** |
| Долар ЗША | 15150/15310 | **15120/15205** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 14.01 | 21.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 138900 | **138900** |
| Сасіскі, 1 кг | 58900 | **54300** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26500 | **26500** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39900 | **39800** |
| Селядзец, 1 кг | 37900 | **40400** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 114000 | **114000** |
| Рыс, 0,9 кг | 10000 | **13000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 9500 | **9500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 20000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4000 | **4000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14800 | **12500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 33000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 11600 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Капуста, 1 кг | 5500 | **5800** |
| Морква, 1 кг | 5500 | **5800** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **5500** |
| Лімоны, 1 кг | 24900 | **27900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19500 | **21500** |
| Мандарыны, 1 кг | 16500 | **19900** |
| Памідоры, 1 кг | 29900 | **33900** |
| Агуркі, 1 кг | 34900 | **36900** |
| Перац, 1 кг | 38000 | **37900** |
| Вінаград, 1 кг | 26000 | **22800** |
| Бананы, 1 кг | 17300 | **17900** |
| Хурма, 1 кг | 22900 | **27900** |
| Яблыкі, 1 кг | 11500 | **10900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 25900 | **28900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | – | **5500** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **55000** |

КРЫМІНАЛ

# 19-гадовы хлопец скраў пярсцёнкі ў брата

## Прыйшоў павініцца ў міліцыю сам

**АСТРАВЕЦ. Акрамя заручальных пярсцёнкаў, хлопец скраў у сваёй маці залаты ланцужок і паціху краў з карткі брата грошы.**

Каб не браць з сабой у Новы год гэтыя грахі, хлопец прыйшоў павініцца ў Астравецкі райаддзел унутраных спраў.

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" распавёў начальнік Астравецкага раённага аддзела Следчага камітэта **Марэк Сінкевіч**:

– Напярэдадні Новага года юнак напісаў яўку з павіннай і раскаяўся ў тым, што здзейсніў.

На працягу некалькіх дзён, калі старэйшы брат атрымаў заробатную плату, малодшы брат без дазволу браў яго пластыкавую картку.

З рахунка здымаў пэўную суму грошай (па 100-200 тысяч рублёў). Траціў іх на прадукты харчавання і піратэхніку. У агульнай складанасці з карткі юнак зняў каля паўтара мільёна рублёў.

Пазней, вырашыўшы, што грошай мала, малады чалавек выкраў у брата два залатыя заручальныя пярсцёнкі, якія той набыў на будучае вяселле. У маці прыкладна ў гэты ж час знік ланцужок. Каштоўнасці хлопец перапрадаў таксісту з суседняга раёна. На дадзены момант усе ўпрыгожванні ўдалося адшукаць і забраць.

– Што яшчэ цікава, – кажа **Марэк Сінкевіч**, – брат і бацька падазраванага прыйшлі ў міліцыю пісаць заяву праз пару гадзін пасля таго, як хлопец ва ўсім прызнаўся.

**Наталля ТУР.**



Фота vashdosug.ru

**Хлопец скраў у брата заручальныя пярсцёнкі. Каб не ўступаць у Новы год з каменем на сэрцы, прыйшоў у міліцыю пакаяцца. Кадр з фільма "Валадар пярсцёнкаў".**

СЛУЖБА 101

## У пажары на Валожыншчыне загінуў 42-гадовы мужчына

**ВАЛОЖЫН.** 16 студзеня каля дзевяці гадзін вечара адбыўся пажар у вёсцы Юржышкі Валожынскага раёна.

Меркавалі, што ў доме знаходзіцца 42-гадовы мужчына. Выратавальнікам пра гэта паведамілі сваякі мужчыны. Пасля пажару яго труп знайшлі ў доме.

Прычына пажару высвятляецца. Папярэднія версіі – неасцярожнае курэнне альбо загаранне праводкі.

Пра здарэнне паведаміў следчы Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Вячаслаў Беляновіч.**

**Галіна СІНІЦА.**

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць мінчаніна, які рыбачыў на вадасховішчы

**ВІЛЕЙКА.** Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС устанаўлівае месцазнаходжанне зніклага без вестак 51-гадовага **Станіслава Іваненкі.**



Ён – ураджэнец вёскі Зазубер'е Касцюковіцкага раёна, жыхар Мінска.

Каля сямі гадзін раніцы 22 снежня 2014 года на ўласным аўтамабілі паехаў на рыбалку на Вілейскае вадасховішча і дадому не вярнуўся.

Па наяўнай інфармацыі Станіслаў Іваненка патануў на Вілейскім вадасховішчы.

**Яго прыкметы:** на выгляд 50 год, рост каля 175 сантыметраў, валасы цёмна-русыя з сівізной, кароткія, вочы зялёныя.

Быў апрануты: зялёная шапка-вушанка, камуфляваны ўцеплены камбінезон, шэры світар, зялёныя боты.

Просім грамадзян пры атрыманні якой-небудзь інфармацыі пра Станіслава Іваненку паведаміць па нумарах тэлефонаў: 8-01771-56-462, 8-029-5076686, 8-033-3143042 або 102.

**Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

ЗДАРЭННІ

## Скраў з магазіна тры бутэлькі віскі

**МАЛАДЗЕЧНА.** 15 студзеня ў гадзіну дня ў міліцыю паступіла паведамленне, што ў магазіне па вуліцы Драздовіча мужчына скраў тры бутэлькі віскі.

Страты склалі амаль паўтара мільёна рублёў.

У той жа дзень затрымалі падазраванага. Гэта 32-гадовы беспрацоўны мужчына. Раней ён быў судзімы.

Цяпер ідзе следства, з магазіна ўзятыя відэазапісы.

Пра гэта паведаміў старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта капітан юстыцыі **Юры Багушэвіч.**

**Галіна СІНІЦА.**

## На ашмянскай мытні затрымалі машыну, якая незаконна перавозіла тавары

**АШМЯНЫ.** У пункце пропуску "Каменны Лог" затрымалі грузавік, які ехаў з Літвы ў Расію.

У машыне былі тавары, не пазначаныя ў дакументах. У грузавым адсеку паўпрычэпа перавозілі камплект і дыскавыя прыстасаванні для насычэння вады кіслародам, радыёдэталі і падвесныя свяцільні.

Не запісаны ў дакументах тавар ацанілі ў 725 мільёнаў рублёў, яго канфіскавалі. Матэрыялы справы накіраваныя ў суд.

**Паводле tut.by.**

## Жыхар Маладзечанскага раёна забіў знаёмую і ў міліцыю патэлефанаваў сам

**МАЛАДЗЕЧНА.** 16 студзеня ў 21:25 у Маладзечанскі РАУС звярнуўся 30-гадовы мужчына і паведаміў, што ён забіў знаёмую.

Здарэнне адбылося 16 студзеня каля 21:20.

Знаходзячыся па вуліцы Маладзёжнай ў вёсцы Гранічы, у ходзе сваркі мужчына, які працуе трактарыстам у Чысці, нанёс не менш за пяць удараў нажом у грудзі сваёй 32-гадовай знаёмай, мясцовай жыхарцы. Жанчына нідзе не працавала.

Ад удараў яна памерла на месцы. Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу.

**Паводле uvd-mo.gov.by**

## Замест айфона маладзечанцу поштай даслалі правады

**МАЛАДЗЕЧНА.** Мужчына размяшчаў аб'явы аб продажы дарагіх тэлефонаў, а дасылаў пакупнікам... правады.

24-гадовы прадпрымальны жыхар Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці ў інтэрнэце размясціў аб'яву аб продажы мабільных тэлефонаў iPhone 6. У наяўнасці ў мужчыны гаджэтаў не мелася, таму пакупніку з Магілёва замест айфона па пошце малады чалавек у скрынцы адправіў правады. Ашуканы атрымальнік пасылкі, які заплаціў за яе каля васьмі мільёнаў беларускіх рублёў, звярнуўся з заявай у праваахоўныя органы, паведамляе Следчы камітэт Беларусі.

Аналагічным чынам падманутымі аказаліся жыхары і іншых гарадоў Беларусі

– Гэта аб'ява зацікавіла жыхара Маладзечанскага раёна, – дадала афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. – Прадавец дамовіўся з пакупніком, што адправіць тэлефон па пошце накладным плацяжом. Пакупнік ў аддзяленні паштовай сувязі перавеў прадаўцу абумоўленую раней суму і заплаціў двухпрацэнтны паштовы збор. Пасля гэтага яму выдалі пасылку. Замест тэлефона ў ёй таксама былі правады.

Атрымальнік своечасова прыняў меры, у выніку чаго грашовы перавод быў адразу ж замарожаны. Па гэтым факце Маладзечанскім раённым аддзелам распачата крымінальная справа за замах на махлярства.

Прадаўца "мабільных тэлефонаў" затрымалі супрацоўнікі органаў унутраных спраў у Брэсце. У дачыненні да яго Брэсцкім міжраённым аддзелам Следчага камітэта за падман жыхара Магілёва распачата яшчэ адна крымінальная справа. У цяперашні час з падазраваным працуюць следчыя. Ён заключаны пад варту.

## На Віленскай кіроўца збіў 64-гадовага мужчыну

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося ў чацвер, 15 студзеня, ля аўтазапраўначай станцыі "Лукойл" каля 7:40 раніцы.

51-гадовы кіроўца выехаў з боку вуліцы Астрожскага на Віленскую на аўтамабілі "Дачыя".

Тут ён наехаў на мужчыну, які пераходзіў дарогу па пешаходным пераходзе.

У выніку здарэння 64-гадовы пешаход з трамвай чэрапа, з пераломам правага пляча быў шпіталізаваны.

– Кіроўца аўтамабіля быў цвярозы, а пешаход не быў абазначаны флікерам, – гаворыць **Сяргей Бартош**, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.

З пачатку года на тэрыторыі Маладзечанскага раёна адбыліся чатыры дарожна-транспартныя здарэнні. У іх загінулі два чалавекі. Яшчэ два атрымалі цялесныя пашкоджанні. Ва ўсіх гэтых здарэннях вадзіцелі былі цвярозыя.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Брэсце шукаюць людзей, якія зніклі ў жніўні

**БРЭСТ.** Аддзел унутраных спраў Ленінскага раёна Брэста шукае зніклых без вестак **Міхаіла Пятровіча Курчака і Ганну Паўлаўну Бараноўскую.** Іх месцазнаходжанне невядомае ад 3 жніўня 2014 года.

Міхаіл Курчак нарадзіўся 19 лістапада 1966 года (48 год). Ураджэнец Брэста. Быў зарэгістраваны па адрасе: Брэст, завулак Фартэчны, дом 4/1, кватэра 3.

Ганна Бараноўская нарадзілася 28 студзеня 1979 года (35 год). Ураджэнка горада Бяроза Брэсцкай вобласці. Была зарэгістраваная па адрасе: *Брэст, вуліца Рабцава, дом 100, кватэра 29.* Жыла ў Брэсце на завулку Фартэчным, дом 4/1, кватэра 3.

**Прыкметы** Ганны Бараноўскай: на выгляд 35-37 гадоў, рост 160 сантыметраў, хударлявага целаскладу, валасы да плячэй, пафарбаваныя ў карычневы колер з чырвоным адценнем.

**Прыкметы** Міхаіла Курчака: на выгляд 45-50 гадоў, рост 165-170 сантыметраў, хударлявага целаскладу, валасы чорныя з сівізной, кароткія, на твары – шрам.

Людзі, якія ведаюць пра месцазнаходжанне Міхаіла Курчака і Ганны Бараноўскай, могуць паведаміць па тэлефонах: **(8029) 7244709, (801622) 11728** альбо па тэлефоне **102**.

**Паводле інфармацыі намесніка начальніка АУС Ленінскага раёна Брэста Генадзя ВАЙТОВІЧА.**



**Шукаюць зніклых без вестак Міхаіла Пятровіча Курчака і Ганну Паўлаўну Бараноўскую.**




У сітуацыі, калі канфліктуюць два бакі, прадстаўнікі закона давяраць будуць незаангажаваным сведкам ці аўдыёзапісу.

● ЗДАРЭННЕ

# Канфлікт паміж ветэранам і службовай асобай. Чыя праўда?

**ВАЛОЖЫН. Івану Камышынскаму, ветэрану Вялікай Айчыннай вайны, жыхару вёскі Забрэззе, сёлета споўніцца 98 гадоў. Ён прайшоў усю вайну, а цяпер уцягнуты ў яшчэ адну – супраць галоўнага эканаміста АТ “Забрэззе” Яўгена Ільюшчэні. Зрэшты, у апошняга зусім іншы пункт гледжання на сітуацыю.**

Да нас у рэдакцыю звярнуліся дачка Івана Камышынскага **Валянціна Судніковіч** і яе сын са сваёй гісторыяй.

– У 98 гадоў бацька ўсё яшчэ актыўна вядзе гаспадарку: гадуе курэй, садзіць агарод, – пачала расповед Валянціна Іванаўна.

На гэты год Іван Камышынскі таксама вырашыў садзіць агарод. І занятак, і зямля пустазеллем не зарастае. Напярэдні сезона паўстала пытанне аб угнаенні ўчастка. Звярнуліся ў кантору мясцовага сельгаспрадпрыемства. Са звароту ў ААТ “Забрэззе” і пачалася ўся гэта гісторыя:

– Мы разам з бацькам і маім сынам прыйшлі да сакратара напісаць заяву на атрыманне гною. Бацька чалавек пажылы, глухаваты і ў кантору пачаў гучна размаўляць. Тут раптам у кабінеце сакратара з'яўляецца малады чалавек, якому недзе каля 40 гадоў. Як потым высветлілася, гэта быў галоўны эканаміст, той самы Яўген Ільюшчэня.

### “Выведзіце дзеда вон адсюль!”

– Не ўнікаючы ў сітуацыю, ён пачаў гаварыць, што мы перашкаджаем яму працаваць, – працягвае Валянціна Судніковіч. – Мы яму сказалі, каб ён быў больш ветлівым са старым чалавекам. На што Яўген Пятровіч адказаў, што навошта мы ўвогуле прыцягнулі сюды дзеда.

Наведнікі, вядома, абурыліся. Папрасілі, каб галоўны эканаміст папрасіў прабачэння ў іх.

На што той, па словах Валянціны Судніковіч, сказаў:

– Выйшлі вон адсюль! Я зараз міліцыю выклічу!

Успрыняўшы гэту сітуацыю блізка да сэрца, Валянціна Судніковіч пачала, як кажа яна: “шукаць управу на нахабнага эканаміста”. Яна напісала скаргу ў Валожынскі райвыканкам. А ад крыўдзіцеля хоча толькі аднаго, каб ён папрасіў прабачэння ў яе бацькі.

### “Яны прыйшлі не па гной, а па скандал”

Яўген Ільюшчэня працуе ў Забрэззі галоўным эканамістам. Цяпер выконвае абавязкі старшыні акцыянернага таварыства “Забрэззе”.

На сітуацыю, якая здарылася ў яго з ветэранам Камышынскім, у Яўгена Пятровіча зусім іншы погляд.

– Гэта гісторыя адбылася тыдні тры таму. Я памятаю той дзень. У канторы панавала звычайная працоўная абстаноўка, калі да нас у кабінет увайшлі трое: чалавек сталага веку, жанчына і малады мужчына. Яны не назвалі сябе.

Па словах Яўгена Ільюшчэні, сям'я адразу пачала са скаргаў. Быццам не той гной ім паабяцалі, гнаявая жыжа іх не задавальняе.

– Калі я папрасіў роўным тонам быць трошку цішэй, бо тут працуюць людзі і яны ім перашкаджаюць, сям'я ветэрана і ён сам сталі мяне абражаць. Я папрасіў іх напісаць заяву на атрыманне гною. Яны сказалі, што нічога пісаць не будуць. У мяне склалася адчуванне, што яны не па гной прыйшлі, а паскандаліць.

Унук Івана Камышынскага звярнуўся да Яўгена Ільюшчэні, як гаворыць Ільюшчэня, на ты.

– А хто ты тут такі? Ды мой дзед супраць такіх як ты ваяваў! – так і сказаў мне малады чалавек. – Вядома, я папрасіў іх пакінуць памяшканне.

Пасля таго дня Яўгену Пятровічу пачало званіць яго кіраўніцтва. Прасілі выбачыцца перад ветэранам. У Гародзькаўскім сельскім выканаўчым камітэце адказалі, што пра гэтую сітуацыю ведаюць. Старшыня званіла Яўгену Ільюшэню, прасіла выбачыцца перад ветэранам.

– Дык вось, я хачу сказаць, – кажа Яўген Ільюшэня, – што я гатовы папрасіць прабачэння ў яго. І пытанне з гноем даўно вырашанае, вясной яго прывязуць ветэрану. Але хачу дадаць, што, калі на гэтым пытанне не закрыецца, я сам напішу заяву ў міліцыю за паклёп і парушэнне грамадскага парадку.

### У сітуацыі два выхады: або ніхто не вінаваты, або штраф заплацяць абодва бакі

Па каментар да гэтай спрэчнай сітуацыі мы звярнуліся да загадчыка юрыдычнай кансультацыі ў Маладзечне **Рыгора Моргуна:**

– У такой сітуацыі, дзе абодва бакі лічаць, што праўда на іх баку, вырашэнне канфлікту можа быць наступным. Абражаная асоба піша заяву ў РАУС. Участковы, якому даручана справа, павінен сабраць матэрыялы з доказамі. Вельмі цудоўна, калі ёсць аўдыёзапіс размовы. Калі такога запісу няма, міліцыянер будзе звяртацца па доказы да аб'ектыўных сведкаў здарэння. У такой сітуацыі давяраць будуць толькі пабочным асобам.

Каб скласці пратакол, неабходна яшчэ даказаць, якімі дакладна словамі абражалі адзін аднаго бакі, якія пасварыліся.

І вырашэнне такога пытання будзе наступным: або справа не будзе заведзеная з прычыны адсутнасці доказаў, або пратакол аб адміністрацыйнай адказнасці будзе складзены на дваіх. І штрафы заплацяць абое.

**P.S. Калі нумар рыхтаваўся ў друк, нам стала вядома, што Яўген Ільюшчэня прыехаў да Івана Камышынскага і папрасіў у яго прабачэння.**

**Наталля ТУР.**

### Выстава вясельных фота пераносіцца

**МАЛАДЗЕЧНА.** Паказ работ маладзечанскіх фатографаў і відэааператараў пераносіцца на пачатак лютага, паведамілі арганізатары. Пра дакладную дату чытайце пазней.

Планавалася, што выстава запрацуе ад 23 студзеня.

**Аддзел інфармацыі.**

● АДУКАЦЫЯ

## Віляйчане прывезлі 13 дыпломаў з прадметных алімпіяд

**ВІЛЕЙКА. Ад 12 да 16 студзеня 28 вучняў 8-11 класаў устаноў адукацыі Вілейшчыны прынялі ўдзел у трэцім (абласным) этапе рэспубліканскіх алімпіяд.**

Дыпломы першай ступені атрымалі два з іх, паведамляецца на сайце аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама. Гэта **Андрэй Жаўняровіч** з Куранецкай сярэдняй школы (па хіміі) і **Яўген Ручыц** з вілейскай гімназіі №1 “Логас” (па працоўным навучанні).

Дыпломы другой ступені заваявалі **Алеся Кузьміч** (вілейская гімназія №2) – па працоўным навучанні, **Марыя Шна** (Любанская СШ) – па рускай мове і літаратуры, **Марыя Сарока** (гімназія №2) – па беларускай мове і літаратуры.

Дыпломаў трэцяй ступені ўдастоены восем удзельнікаў. Па беларускай мове і літаратуры – вучаніцы гімназіі №1 “Логас” **Карына Шупенька** і гімназіі №2 **Надзея Клімёнак.**

Таксама дзве вучаніцы вызначыліся па рускай мове і літаратуры: **Аляксандра Фірага** з гімназіі №2 і **Марыя Пракаповіч** з СШ №3 Вілейкі.

Па фізіцы дыпломы трэцяй ступені заваявалі вучні Даўгінаўскай СШ **Дзяніс Яскевіч** і гімназіі №1 “Логас” **Канстанцін Кулак.** Па астраноміі – **Іван Клямёнак з гімназіі №2,** па працоўным навучанні – **Віталь Таргачоў з Людвіноўскай СШ.**

Па выніках трэцяга этапу вызначаць склад камандаў Мінскай вобласці для ўдзелу ў заключным этапе рэспубліканскай алімпіяды. Пройдзе ён у сакавіку.

**Аддзел інфармацыі.**

● КУЛЬТУРА

## Весялілі і ўручалі падарункі юным і пажылым

**ВІЛЕЙКА. Традыцыйна раённы цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі праводзіць дабрачынныя праграмы “Калядныя сустрэчы”.**

Напярэдадні Старога Новага года адну з сустрэч арганізавалі для выхаванцаў аддзялення дзённага знаходжання і суправаджальнага пражывання для інвалідаў “Ластаўка” тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва і цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі.

Юныя салісты вакальнай групы “Званочкі” і фальклорнага ансамбля “Чабарок” прадставілі невялікую канцэртную праграму. Прагучалі навагоднія і калядныя песні, а апошні калектыў паказаў абрад калядавання.

На памяць аб сустрэчы гасцям уручылі падарункі, сабраныя членамі раённай піянерскай арганізацыі ў межах рэспубліканскай дабрачыннай акцыі “Цуды на Каляды”. Такія ж падарункі передалі выхаванцам сацыяльна-педагагічнага цэнтра.

А 14 студзеня цэнтр дадатковай адукацыі гасцінна прымаў у сваіх сценах членаў клуба “Дзеці вайны” і “Літаратурнай гасцёўні” ТЦСАН. Прадстаўнікам старэйшага пакалення паказалі канцэртную праграму з удзелам фальклорнага ансамбля “Чабарок” і вакальнага ансамбля “Натхненне” цэнтра дадатковай адукацыі і ансамбля “Бабіна лета” Палаца культуры.

Святочную праграму аздобілі імправізацыі, вясёлыя жарты і прыпеўкі гасцей свята. На развітанне яны атрымалі сувеніры, зробленыя рукамі навучэнцаў гурткоў.

**Сяргей РЫЖЭВІЧ,**
**культарганізатар раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**

# Месяцавы каляндар

## садавода і агародніка на 2015 год



### Першае паўгоддзе

**Штогодні традыцыйны месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2015 год. Улік квадраў Месяца, становішча Месяца ў знаках задыяка. Рэкамендацыі для садаводаў і агароднікаў. Уплыў неспрыяльных, у тым ліку сатанінскіх дзён. Новае: парады і падказкі траўнікам і грыбнікам.**

**Заўсёды памятайце, што на добрыя выни́кі ў агароднай справе і ў садзе ўплываюць не толькі тэрміны правядзення работ, але таксама і агульныя ўмовы вегетацыі раслін. Звяртайце ўвагу на надвор'е. Арыентуйцеся на агратэхнічныя рэкамендацыі. Комплекснае прымяненне агратэхнічных канонаў і парад месяцавага календара дазволіць парадаваць сябе і сваіх блізкіх добрым ураджаем.**

### Люты

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін. Сяўба гародніны для вырошчвання ў зімовай цяпліцы |
| 2-4 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 5, 6 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 7-9 | Сяўба зеляніны і пасадка цыбульных кветак для вырошчвання ў зімовай цяпліцы. Паліў, рыхленне глебы, падкормка кветак |
| 10, 11 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак |
| 12-14 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 15, 16 | Пасадкі на насенне. Рыхленне глебы, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 17-19 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 20 | Сяўба зеляніны і гародніны на падваконні або ў зімовых цяпліцах. Паліў, унясенне ўгнаенняў |
| 21, 22 | Сяўба зеляніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Барацьба са шкоднікамі пакаёвых раслін |
| 23, 24 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Унясенне арганічных угнаенняў |
| 25, 26 | Рыхленне глебы і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 27, 28 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін. Сяўба агародніны для вырошчвання ў зімовай цяпліцы |

### Сакавік

| | |
|---|---|
| 1 | Сяўба на расаду таматаў, капусты, агуркоў, перцу. У адкрыты грунт – салаты, пятрушкі, кропу, рабарбару |
| 2, 3 | **Не рэкамендуецца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Зручны момант для падрыхтоўкі градаў і газонаў да пасадак, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 4 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць на насенне.** З кветак саджайце астры, крокусы, вяргіні, гладыёлусы, касачы. Рэкамендуецца рыхленне, культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |
| 5 | **Не рэкамендуюцца пасевы і пасадкі.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпкі, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы |
| 6 | Пасеў і перасадка раслін, рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 7, 8 | Пасадка клубневых культур (рэпы, радыскі) |
| 9-11 | Пасадка большасці клубневых культур, акрамя бульбы. **Не рэкамендуецца саджаць дрэвы.** Эфектыўныя абразанне дрэў і ягадных кустоў, прышчэпкі, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы |
| 12, 13 | Будзьце абачлівыя пры любых садова-агародных працах. Культывацыя, прапалка, знішчэнне шкоднікаў |
| 14, 15 | **Не рэкамендуецца перасадка кветак.** Час спрыяе пасадцы радыскі, бручкі, рэпы |
| 16-17 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Праводзьце апырскванне і абкурванне, абразайце дрэвы і кусты |
| 18, 19 | Сяўба сельдэрэю, радыскі, цыбульных, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |
| 20, 21 | Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі |
| 22, 23 | Сяўба салаты і капусты. Абразанне дрэў і кустоў |
| 24, 25 | Выдаленне лішніх атожылкаў, прапалка, мульчыраванне, добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 26-28 | Сяўба на расаду: таматаў, капусты, агуркоў, перцу. У адкрыты грунт – салаты, пятрушкі, кропу, рабарбару |
| 29-30 | **Не рэкамендуецца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Зручны момант для падрыхтоўкі градаў і газонаў да пасадак, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 31 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць на насенне.** Рэкамендуецца рыхленне, культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |

### Красавік

| | |
|---|---|
| 1, 2 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць на насенне.** Рэкамендуецца рыхленне, культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |
| 3 | Пасадка костачкавых фруктовых дрэў, стручковых культур (гароху, фасолі, спаржы, сачавіцы), а таксама ўсіх кветак |
| 4 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 8, 9 | Будзьце абачлівыя пры любых садова-агародных працах. Культывацыя, прапалка, знішчэнне шкоднікаў |
| 10, 11 | **Не рэкамендуецца перасадка кветак.** Час спрыяе пасадцы бульбы, радыскі, бручкі, рэпы |
| 12, 13 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзку дрэў і кустоў, праполку |
| 14-16 | Сяўба сельдэрэю, радыскі, цыбульных, высадка расады ў грунт, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |
| 17 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, прапалка і мульчыраванне |
| 18 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка** |
| 19, 20 | Сяўба салаты і капусты. Абразанне дрэў і кустоў |
| 21, 22 | Пасадка бабовых і павойных раслін (руж, якія плятуцца, суніц, вінаграду). Выдаленне лішніх парасткаў, прапалка, мульчыраванне. Добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 23, 24 | Пасадка большасці культур: таматаў, капусты, агуркоў, перцу, гарбузоў, кавуноў, дыняў, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў. Яравізацыя бульбы. |
| 25-27 | **Не рэкамендуецца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Зручны момант для падрыхтоўкі градаў і газонаў да пасадак, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 28, 29 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, сеяць на насенне.** Рэкамендуецца рыхленне, культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў, апырскванне |
| 30 | Пасадка костачкавых фруктовых дрэў, стручковых культур (гароху, фасолі, спаржы, сачавіцы), а таксама ўсіх кветак |

### Май

| | |
|---|---|
| 1, 2 | Пасадка костачкавых фруктовых дрэў, стручковых культур (гароху, фасолі, спаржы, сачавіцы), а таксама ўсіх кветак |
| 3 | Пасадка большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў. Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы. Яравізацыя бульбы. |
| 4 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Эфектыўныя прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліў, знішчэнне шкоднікаў, узворванне і рыхленне глебы |
| 5, 6 | Будзьце абачлівыя пры любых садова-агародных працах. Культывацыя, прапалка, знішчэнне шкоднікаў |
| 7-9 | **Не рэкамендуецца перасадка кветак.** Час спрыяе пасадцы бульбы, радыскі, бручкі, рэпы. Час спрыяе пасадцы бульбы, радыскі, бручкі, рэпы. Унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў |
| 10, 11 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзку дрэў і кустоў, праполку |
| 12, 13 | Сяўба сельдэрэю, радыскі, цыбульных, высадка расады ў грунт, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |
| 14, 15 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, прапалка і мульчыраванне |
| 16, 17 | Пасадка ўсіх караняплодаў, клубневых і цыбульных культур, бульбы. Абрэзка дрэў і кустоў |
| 18 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка** |
| 19 | Пасадка бабовых і павойных раслін (руж, якія плятуцца, суніц, вінаграду). Выдаленне лішніх парасткаў, прапалка, мульчыраванне. Добра рыхтаваць месца пад газоны і грады, змагацца са шкоднікамі і хваробамі (апырскванне і абкурванне) |
| 20-22 | Пасадка большасці культур: таматаў, капусты, агуркоў, перцу, гарбузоў, кавуноў, дыняў, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў. Яравізацыя бульбы. |
| 23, 24 | **Не рэкамендуецца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Добра пойдзе пасадка кустоў і дрэў. Зручны момант для падрыхтоўкі градаў і газонаў да пасадак, мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў |
| 25-27 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, садзіць на насенне.** Добра прыжывуцца дэкаратыўныя расліны, не прызначаныя для плоданашэння: бружмель, шыпшыннік. З кветак рэкамендуецца саджаць павойныя расліны. Касьба запаволіць рост траў |
| 28, 29 | Пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Пасадка костачкавых фруктовых дрэў. Эфектыўныя паліў і касьба. Выдатная пара для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў, догляду за пакаёвымі раслінамі |
| 30-31 | Пасадка большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў. **Не рэкамендуецца рассаджваць расліны каранямі, збіраць травы і саджаць дрэвы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліванне, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы |

### Чэрвень

| | |
|---|---|
| 1 | Пасадка хуткарослых культур: зеляніны, цыбулі, часнаку, лекавых траў – на насенне, а таксама суніц, шпінату, шыпшыны, бружмелі, слівы. Рэкамендуецца збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Пасаджаныя ў гэты дзень дамашнія кветкі хутчэй расцвітаюць |
| 2 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца рыхленне, Унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба |
| 3-5 | Пасадка і перасадка дрэў і кустоў. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба |
| 6-7 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца збіраць збожжавыя і караняплоды, касіць, праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзка дрэў і кустоў, прышчыкванне, прапалка |
| 8-9 | Рэкамендуюцца пасадкі сельдэрэю, радыскі, цыбульных, падрэзка і прышчэпка дрэў і ягадных кустоў. Нарыхтоўка варэння і саленняў Выдатны час для культывацыі, паліву і ўнясення ўгнаенняў |
| 10-11 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Падрыхтоўка глебы пад сяўбу, знішчэнне шкоднікаў, прапалка і мульчыраванне. Збор ураджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых і эфірамасліchных культур, сушка гародніны і садавіны |
| 12-13 | Пасадка ўсіх караняплодаў, клубневых і цыбульных культур, бульбы. Абрэзка дрэў і кустоў . Садавіна, ягады і гародніна, знятыя ў гэты час, прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 14-15 | **Не рэкамендуецца пасадка і перасадка травяністых культур.** Эфектыўныя выдаленне лішніх парасткаў, касьба, прапалка, культывацыя, мульчыраванне. Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 16 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Эфектыўныя выдаленне лішніх парасткаў, касьба, прапалка, культывацыя, мульчыраванне. |
| 17-18 | Пасадка і перасадка большасці культур: бахчавых, фасолі, патысонаў, баклажанаў, кабачкоў. Добра развіваюцца нізкарослыя расліны, горш – высокія, бо сцябло набывае сярэднюю трываласць (таму не рэкамендуецца саджаць высакарослыя гатункі памідораў) |
| 19-20 | **Не рэкамендуецца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Рэкамендуецца пасадка кустоў і дрэў, збор і сушка садавіны і карняплодаў. Варта правесці касьбу з мэтай запаволення росту травы. Зручны момант для мульчыравання, для барацьбы са шкоднікамі, для абрэзкі дрэў, для збору насення сланечніку, нарыхтоўкі лекавых траў |
| 21-23 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць гародніну, фруктовыя дрэвы, садзіць на насенне.** Добра прыжывуцца дэкаратыўныя расліны, не прызначаныя для плоданашэння: бружмель, шыпшыннік. З кветак рэкамендуецца саджаць павойныя расліны. Касьба запаволіць рост траў |
| 24-25 | Пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Пасадка костачкавых фруктовых дрэў. Эфектыўныя паліў і касьба. Выдатная пара для зразання кветак, стварэння газонных арнаментаў, догляду за пакаёвымі раслінамі |
| 26-28 | Пасадка большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў. **Не рэкамендуецца рассаджваць расліны каранямі, збіраць травы і саджаць дрэвы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка, унясенне ўгнаенняў, паліванне, знішчэнне шкоднікаў, рыхленне глебы |
| 29-30 | Пасадка хуткарослых культур: зеляніны, цыбулі, часнаку, перцу, лекавых траў – на насенне, а таксама суніц, шпінату, шыпшыны, бружмелі, слівы. Рэкамендуецца збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Пасаджаныя ў гэты дзень дамашнія кветкі хутчэй расцвітаюць |

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**

**Каляндар на другое паўгоддзе будзе ў наступным нумары.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• БМВ-Х5, 2003 г.в., 3,0 Д. Т. (8-029) 6265423.*

• ВАЗ-2105, 1996 г.в., добры стан, 1350 у.а., торг. Т. (8-029) 6525751.

• ВАЗ-21053, 1999 г.в., 1,5 бензін, не фарбаваны, добры стан, 1000 у.а., торг. Валожын. Т. (8-029) 3386126.

• ГАЗ-24 на запчасткі. Т. (8-029) 3051355.

• Зафіра, 2010 г.в., 1,6 бензін, з Германіі. Т. (8-029) 3555444.*

• Лянча Z-мінівэн, 1997 г.в., 2,1 ТД, цёмна-сіні металік, максімальная камплектацыя, 6500 у.а., торг каля машыны. Т. Вэлком (8-029) 6755974.

• Мазда-626, 1996 г.в., 2,0 бензін, добры стан. Т. Вэлком (8-044) 7345598.*

• Мазда-Прэмасі, 2002 г.в., белы мінівэн. Прабег 236 000 км. 2,0 дызель, добры стан, 4900 у.а. Т. (8-029) 6458033, (8-029) 5529833.

• Мерседэс-207Д, 1988 г.в., грузавы, добры стан, 3,5 тыс. у.а., магчымы торг, можна ў грошах РБ. Т. МТС 2620024.*

• Міцубісі-Лансер, 2004 г.в., 1,6Б, сярэбр., 130 т.км, на літых дысках, зімовая + летняя гума. Поўны э/пакет, кандыцыянер, 6000 у.а., торг. Т. (8-029) 6631595.*

• Опель-Вівара, 2006 г.в., 1,9 СТДі. Т. (8-029) 8822640, (8-029) 9512274.

• Опель-Астра, 2001 г.в., 1,7 дызель, універсал, 5800 у.а., тэрмінова. Т. (8-029) 8710255.

• Пежо 405, 1991 г.в., 1,9 дызель, універсал, 1200 у.а. Т. (8-044) 7196323.*

• Рэно-19, 1,7Б, аварыйны, на запчасткі, ц. 3 800 000 руб Т. (8-029) 8605031, 746041.

• Рэно-Сцэнік, 2000 г.в., 1,6 бензін, 6000 у.а. Т. (8-029) 6942220.

• Сіят-Ібіца, 2003 г.в., 1,4 бензін, 6000 у.а. Вілейка. Т. (8-029) 8680188, (8-01771) 45607.

• Таўрыя, 2000 г.в., белы, ТА, страхоўка, сігнал, на хаду. Т. (8-033) 6241379.

• УАЗ буханка, у добрым стане. Т. (8-029) 9310566.*

• ФВ Т-4, 1998 г.в., 1,9 ТД, грузавы вагон, доўгі. Т. (8-029) 9689645.*

• ФВ-Джэта, 1988 г.в., 1,6 дызель, зімовая гума R14, добры тэхстан, літыя дыскі, 1500 у.а. Т. (8-029) 5533923.

• ФВ-Пола, 2002 г.в., 1,2 бензін, 5 дзвярэй. Т. (8-029) 9689645.*

• ФВ-Пола, 2003 г.в., бензін, чорны, 5 дзвярэй. Пежо-306, 1,9 дызель, універсал, чорны. Т. (8-029) 3020248.

• Фіят-Крома, 1988 г.в., 2,0Б, чырвоны. Яшчэ прыдатны для язды аўтамабіль, цана 850 у.а. Т. МТС (8-029) 5511138.

• Форд-Сіера, добры стан, нядорага. Т. (8-033) 6383847.*

• Форд-Фіеста, 1992 г.в., 1,3 бензін, у добрым стане, 1400 у.а., торг. Т. (8-029) 6194636*.

• Шкода-Актавія, 2009 г.в. Т. (8-029) 6887462.*

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ** б/у для **НЯМЕЦКІХ І ФРАНЦУЗСКІХ** аўто. Гарантыя, г. Ліда. Дастаўка ў Маладзечна. ІП Малец П.Н. УНП 591319307. Т. (8-029) 9289224, (8-029) 7417597, (8-033) 3761764.*

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У ДЛЯ РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЕНАЎ. ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ,** Маладзечна, вул.Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

• Запчасткі б/у ВАЗ-2109. Т. (8-029) 6525751.

• **ЗАПЧАСТКІ** б/у **ДЛЯ ЎСІХ** марак аўто. г. Маладзечна, вул. Маладзёжная,10. ІП Еўдакіменка Д.І., УНП 191984027. Т. (8-029) 8787760, (8-029) 6392287*

• Запчасткі б/у для Аўдзі-В3. Т. (8-029) 5686869.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Гольф 3. Т. (8-029) 6154346.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Пасат В3. Т. (8-029) 8777677.*

• Запчасткі да БМВ-325, TDS, 1997 г.в. Т. (8-044) 7387127.*

• Запчасткі да Опель-Вектры, 2003 г.в., 2,2 ТДІ, рухавік, турбіна, помпа, падвеска, МККП, кузаўшчына, бамперы, оптыка і іншае. Т. (8-033) 3425134.*

• Запчасткі да Опель-Зафіры, 2004 г.в., 2,0 ТДІ, рухавік, турбіна, МККП, кузаўшчына, оптыка і шмат іншае. Т. (8-033) 3425134.*

• Запчасткі да Форд-Эскорт, 1,8Д,1994 г.в. Т. (8-044) 7387127.*

• Запчасткі на ФВ-Пасат Б5, універсал, 1998 г.в., рухавік 1,9 турбадызель, падвеска, кузаўшчына, салон, ланжероны, рулявая рэйка, дзверы. Маладзечна. Т. (8-029) 7775895.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО; КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Шыны заднія да Т-25. Т. (8-029) 6265423.*

• Шыны зімовыя новыя 195х55хR15-2 шт. Т. Вэлком (8-029) 6406904.*

• Шыны зімовыя новыя, 4 шт., "Fulda", R15 195/65, 320 у.а. Т. (8-029) 7040013.*

## КУПЛЮ

• **АЎТО, МОЖНА З ПРАБЛЕМАМІ. Т. (8-029) 7649185, (8-029) 9496581.***

• **АЎТО, ХУТКА, ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7652832, (8-029) 9496492.***

• **АЎТО, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль любога года выпуску, з любымі праблемамі. Дорага. Т. (8-044) 4625799*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, пагрузчык. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто 1984-2005 г.в. у любым тэхнічным стане, аварыйнае ці на запчасткі. Т. (8-029) 2635648.*

• Іншамарку за 3000 у.а. Т. (8-029) 3856049.*

• Прычэп "Зубраня" без дакументаў. Рухавік ад матаролера Муравей, матаколяскі ЯВА, КПП ЗАЗ, задні мост ад Волгі-3110. Т. (8-029) 5088142, (8-044) 7919847.

## ПАСЛУГІ

• Арэнда самазвалаў МАЗ, 20 тон і 10 тон (дастаўка пяску, шчэбеню, асфальту, вываз смецця), франтальнага пагрузчыка ТА-18, поўнапаваротнага экскаватара, (0,85 куб. м), экскаватара-пагрузчыка, гусенічнага экскаватара, увесь комплекс земляных работ. ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*




## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Ф. Скарыны, д.52, 2002 г. , 46/ 30/ 9,2, 1 паверх. Т. (8-029) 5062789.

• 2-пакаёвая кватэра, 41 кв.м, у Вілейцы па вул. Чайкоўскага, 1, хлеўчык (сарай) + склеп, часткова з мэбляй, 27000 у.а., торг. Т. (8-029) 2716428, (8-029) 2841312.*

• 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага р-на, 1/3 пав., шклопакеты, металіч. дзверы, бойлер, балкон, гараж, падвал, агарод. Т. (8-033) 6362026.

• 3-пакаёвая кватэра на другім паверсе ў Вілейцы па вул. Незалежнасці з гаражом. Т. (8-029) 2716622, + 7-903 5849995.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 1 паверх. Т. (8-029) 6888111, (8-029) 3555444.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Міру, побач рэчавы рынак і новы вялікі Еўраопт. Т. (8-0176) 773863, (8-029) 9741131.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Вілейцы ў добрым стане, з добрай планіроўкай, першы паверх, р-н 26 магазіна, 40 500 у.а. Т. МТС (8-029) 7577773.

• Гараж 6х4 м, з ямай і падвалам у ГК №11 г. Маладзечна па вул. Крынічнай. Т. МТС (8-029) 2729429.*

• Дом жылы ў в. Куцяняты Валожынскага р-на, у добрым стане, 20000 у.а. Т. (8-029) 3386126.

• Дом стары і ўчастак 0,25 га, 2 км ад г. Маладзечна. Т. Вэлком 3200327.*

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |

• Дом у в. Талуць Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7508723.

• Дом у Вілейцы ў р-не Макоўе, 60000 у.а., торг пры аглядзе. Т. (8-025) 9298699, (8-029) 1765815.

• Дом у г.п. Крывічы Мядзельскага р-на, жыл. пл. 33,0. Т. Вэлком (8-029) 9920556.

• Дом у добрым стане ў в. Даўжане Мядзельскага р-на, 0,22 га, шаша Мінск- Нарач. Т. Вэлком 9996961, 9394794.

• Участак зямельны 0,13 га з домам у в. Івонцавічы Вілейскага р-на. Т. (8-029) 2716622, + 7-903 5849995.

• Участак зямельны 0,13 га з домам у в. Ілішчавічы Вілейскага р-на. Т. (8-029) 2716622, + 7-903 5849995.

• Участак зямельны 17 сотак, гаспабудовы, сад, побач лес, рака, 2000 у.а., торг. у в. Пашкоўшчына Мядзельскага р-на. Т. (8-029) 9507913, (8-033) 6623876.

## ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін. Т. (8-029) 6707331.*




## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

## ЦЫРУЛЬНІ

• Стрыжка і догляд за поўсцю дамашніх жывёл у ГЦ "Тройка", 4 паверх. Да канца месяца вельмі нізкія цэны! ІП Пружан С.М. УНП 690369213. Тэл. для запісу: Вэлком (8-044) 4707113.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Відэа-фота ўрачыстасцяў, святаў, карпаратываў. Тэлестудыя «Наш час». УНП 601058195. Т. (8-029) 6201941, (8-0176) 544670.*

• **ВІДЭАЗДЫМКА, МАНТАЖ**, прафесійная відэакамера Sony HDR AX-2000E. ІП Малько А.Г., УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Фота і відэа 16:9 вяселляў, юбілеяў і іншых урачыстасцяў. Слайд-шоу і фотакнігі. Аблічбоўка відэакасет. Параім музыкаў. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*



## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• МАЗ, грузападымальнасць 10 т, па РБ. ІП Чубін В.В. УНП 691509491. Т. МТС 5740702, Вэлком 3108569.*

• МАН бартавы, 20 т, 13,6 м; МАН гідраманіпулятар, 20 т. ІП Шеремет В.В. УНП 691289007. Т. (8-029) 2713567.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

• **ФВ-LT – 2 ТОНЫ, 10 КУБ.М.**, даўжыня 3,30, суцэльнаметалічны. Санкніжка. ІП Радына П.В. УНП 691886996. Т. (8-029)7043273.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. Вадасцёкавыя сістэмы. Замер, кансультацыя, дастаўка. Іншыя аддзелачныя работы. ІП Барысевіч А.П. УНП 690686296.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• **ПА РАМОНТУ АДЗЕННЯ Ў НОВАЙ МАЙСТЭРНІ** ў Вілейцы па вул. Савецкай,24, пн – пт с 10:00 да 18:00. ІП Бажынава І.Н. УНП 691506635.

• **ПАСЛУГІ ЭЛЕКТРЫКА** (рамонт электраабсталявання, мантаж і інш.). **ПРОДАЖ І ЎСТАНОЎКА** сістэм відэаназірання, **ВІДЭАДАМАФОНАЎ, ВІДЭАВОЧКАЎ**. ІП Драгун А.О. УНП 691884197. Т. МТС 7706263, Вэлком 9710597.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СТУДЫЯ ТАТУ** "Карона Арт" прапануе татуаж броваў, павек і губ, мастацкую татуіроўку. ІП Кушч О.А., УНП 691880191. Т. (8-029) 3345044, (8-029) 7080997.*

• Усе віды будаўнічых работ. Наяўны і безнаяўны разлік. ЧБУП "ЮлМірБуд", УНП 591804221. Т. (8-029) 2827362.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы для дарослых, выпускныя вечары. ІП Кананові́ч І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692 МТС, (8-044) 4904791 Вэлком.*

• **ЯКАСНАЯ АДДЗЕЛКА КВАТЭР, ДАМОЎ. ГІПСАКАРДОН (АРКІ, СТОЛІ, ПЕРАГАРОДКІ), ШПАКЛЁЎКА, ТЫНКОЎКА, ПЛІТКА.** ІП Славашэвіч І.Д. УНП 691865317. Т. (8-029) 8738112.*

# УДЗЯЧНАСЦЬ

Выказваем словы шчырай удзячнасці родным, сябрам, суседзям, калектыву аўтобуснага парка №4 ААТ "Мінаблаўтатранс", работнікам райвыканкама, кіраўнікам і калектывам прадпрыемстваў горада і раёна, культурных устаноў горада, ГА "Сябрына", калектыву дзіцячага сада №32, калегам з дзіцячай паліклінікі, усім-усім жыхарам Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага раёнаў за маральную і матэрыяльную падтрымку нашай сям'і з прычыны трагічнай смерці нашага любага мужа, таты, дзядулі ЙУСТАФІЯ ІВАНАВІЧА КАРАВАЯ. Няхай усіх Вас Бог атуляе любоўю.

**Смуткуючыя жонка, дзеці, унукі.**



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*
- Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*
- Рухавік карбюратарны, 1,3, новы, на кансервацыі, для самаробнага трактара, 400 у.а. Т. (8-029) 3790419.*

**Бытавая тэхніка**

- Пральная машына-аўтамат, нямецкая. Маладзечна. Т. 765801, (8-029) 3962165.
- Швейная машынка "Алеся" з электрапрыводам і батарэі чыгунныя. Княгінін. Т. (8-029) 9507913, (8-033) 6623876.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. ІП МАРКАЧ Ю.А. УНП 591732349. Т. (8-029) 3548371***

**Мэбля**

- Секцыя "Дзітва" б/у, у добрым стане, дастаўка, нядорага. Т. (8-033) 6865377, (8-044) 5441261.*

**Музінструмент**

- Піяніна "Беларусь", б/у, Вілейка. Т. (8-029) 5987004, 8156131 (пасля 16.00).*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Авечкі. Т. (8-029) 2725536.
- Парасяты в'етнамскай пароды. Маладзечна. Т. (8-033) 6316635, (8-0176) 723482.*
- Свінні. Т. (8-029) 3350316.*
- Трусы (маладняк і мяса). Т. (8-029) 7628438.*
- **ШЧАНЯТЫ ДАБЕРМАНА** з выдатнай радаслоўнай., 6 000 000 руб. Т. (8-029) 8747777.*
- Шчаняты ёркшырскага тэр'ера. Вельмі шустрыя, ад бацькі чэмпіёна Беларусі. Узрост шчанят 1,5 месяца. Т. МТС (8-033) 6322800.

**Іншае**

- Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 8789740.*
- Брыкет, воданагравальнік "Арыстон" (б/у), 15 л. Т. МТС (8-033) 6000181.
- Валёнкі, 100% шэрсць, нядорага. Т. (8-029) 9282021.*



- Дровы колатые. Дастаўка 2 машыны. Т. Вэлком (8-044) 4784873, МТС (8-033) 6510342.*
- КТН-2В, прэс ПРФ-180, конная капалка, шасцярня да коннай капалкі. Т. МТС (8-029) 5585490.
- Новы вібрастол для вырабу бетонных агароджаў. Т. (8-044) 4818333.
- Павільён па вул. Краснаармейскай, "Зеніт", у Вілейцы ці здам у арэнду. Т. Вэлком (8-029) 6984719.
- Рацыя для аўто з антэнай. Т. (8-029) 9689645.*
- Цэгла б/у, белая, 1000 шт., 18 шт. новых блокаў, памер 240/400/620 (танна). Т. (8-029) 5674896.

## КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Прычэп самазвальны для Т-25. Т. (8-029) 6265423.*
- Фрэзу на МТЗ-82, даільны апарат. Т. (8-029) 2725536.

**Бытавую тэхніку**

- Плазменныя і LCD тэлевізары ў няспраўным стане. Т. (8-029) 6434740.*

**Музінструменты**

- Акардэон поўны. Т. (8-029) 3069965.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Фотаапараты "Зеніт" ці аб'ектывы да іх. Т. (8-029) 6637111.*
- Шкуркі куніцы, выдры. Т. (8-029) 8552646.

## ЗГУБЛЕНА

- Месяц шукаем рускую-гончую, светла-жоўтай масці, якая прапала ў р-не Касцяневіч-Даўгінава. Просьба паведаміць па тэл. (8-01771) 25393, МТС (8-029) 7782619.

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Па ўстаноўцы дзвярэй, драўляных лесвіц і іншыя будаўнічыя работы. Т. МТС 7584853.*
- Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 149-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

● ВЫСТАВЫ

# Мастачка з Маладзечна “пасяліла” монстраў у Мінску

**МАЛАДЗЕЧНА. 23-гадовая Яна Зяновіч, якая цяпер жыве ў Вільні, стварыла серыю незвычайных фотаздымкаў “Монстры ў Мінску”.**

– Ідэя ўзнікла сама сабой, – расказвае дзяўчына. – Летам я часта была ў Мінску, адчувала сябе быццам дома. Мы з сяброўкай **Каралінай Паляковай** фатаграфавалі горад. І тут раптам узнікла нечаканая ідэя паказаць яго ў незвычайным выглядзе, таму пасяліла там монстраў.



Фота забяспечана Янай ЗЯНОВІЧ.

Фотапраект “Монстры ў Мінску” мастачка лічыць несур’ёзным, аднак не выключае, што падобны праект можа з’явіцца праз некаторы час.

## Наглядзелася мульцікаў – стварыла монстраў

Яна Зяновіч гаворыць, што глядзіць вельмі многа мульцікаў, магчыма, яны такім чынам паўплывалі на яе светаўспрыманне.

Фотапраект “Монстры ў Мінску” мастачка лічыць несур’ёзным і не лічыць фотаздымкі суперідэяй.

– Шчыра кажучы, – гаворыць Яна Зяновіч, – не чакала, што праект выкліча такі рэзананс. Працавала над фотаздымкамі ў перапынках ад асноўнай працы.

Дзяўчына гаворыць, што праз некаторы час можа ўзнікнуць падобная задума. Аднак у дачыненні да Маладзечна пакуль не робіць такіх планаў.

Яна адзначае, што цяпер займаецца больш значнымі праектамі. Дзякуючы ім яна можа аплачваць кватэру ў Вільні. Часам дзяўчына ездзіць на працу ў Прагу. Яна працуе ў сферы дызайну, ілюстрацыі і моўшан-графікі.

## Раблю тое, што “ў трэндзе”

– Я малюю з дзяцінства, – гаворыць мастачка. – Аднак толькі нядаўна пачала займацца гэтым сур’ёзна. У творчасці я ні на каго не раўняюся, гляджу, што цяпер “у трэндзе” стварэння рэкламных ролікаў, відэакліпаў, афармлення тэлевізійнага эфіру.

Крыніцу натхнення дзяўчына стараецца знайсці ва ўсім, што пабач. Яна лічыць, што навакольнае асяроддзе само па сабе абуджае ў чалавеку адпаведную рэакцыю.

Яна Зяновіч летась скончыла Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт па спецыяльнасці “Візуальная культура: медыя і камунікацыі (кіно, тэлебачанне, інтэрнэт)”. Пасля засталася жыць і працаваць у Вільні.

**Галіна СІНІЦА.**

**Даведка “РГ”.** Моўшан-графіка – візуальнае афармленне для відэа, тэлебачання і кіно, створанае пераважна для камп’ютарных тэхналогій. Прымяняецца для стварэння рэкламных ролікаў, відэакліпаў, афармлення тэлевізійнага эфіру.

# Расклад руху цягнікоў па станцыі Маладзечна

## Электрацягнікі ад 29 снежня 2014

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка |
| 6102 | **04:14** | 05:59 | б/п Селівонаўка | 6101 | **00:30** | 02:10 | б/п Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | **05:09** | 06:57 | | 6103 | **04:42** | 06:14 | б/п Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі |
| 6108 | **05:44** | 07:31 | б/п Раманы, з панядзелка па пятніцу | 6105 | **05:18** | 07:01 | |
| 6110 | **06:46** | 08:34 | | 7033 | **06:10** | 07:28 | Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны, далей д.п. да Гудагая, б/п Гаўцi, Скрэсціны, Каменка |
| 6112 | **07:33** | 09:21 | | 6107 | **06:34** | 08:19 | |
| 6114 | **08:35** | 10:23 | | 6109 | **07:38** | 09:22 | |
| 7032 | **09:13** | 10:45 | прыпынкі: Ждановічы, Мінск-Паўночны | 6111 | **08:56** | 10:43 | |
| 6116 | **09:55** | 11:50 | | 6113 | **09:52** | 11:38 | |
| 6118 | **11:06** | 12:56 | | 6119 | **11:40** | 13:24 | |
| 6120 | **13:12** | 14:59 | | 6121 | **12:48** | 14:35 | |
| 6122 | **14:56** | 16:39 | да станцыі Мінск-Паўночны | 6123 | **14:50** | 16:35 | б/п Селівонаўка |
| 6124 | **15:46** | 17:33 | | 6125 | **15:35** | 17:21 | |
| 6126 | **16:59** | 18:54 | | 6127 | **16:19** | 18:11 | |
| 6128 | **18:01** | 19:49 | | 7035 | **17:55** | 19:18 | Ад Мінска да Маладзечна з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны, далей Маладзечна-Гудагай з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны |
| 6132 | **18:45** | 20:31 | | 6129 | **17:35** | 19:27 | |
| 6134 | **19:51** | 21:37 | | 6131 | **18:16** | 20:02 | б/п Крыжоўка, Мінскае Мора, Зялёнае |
| 6136 | **20:52** | 22:32 | б/п Вязынка, Анусіна | 6133 | **19:36** | 21:25 | б/п Крыжоўка, Мінскае Мора, Зялёнае |
| 7036 | **21:56** | 23:19 | Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны | 6135 | **20:50** | 22:37 | |
| 6138 | **22:14** | 23:54 | б/п Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | 6137 | **22:18** | 00:07 | б/п Мясата, Татаршчызна, Крыніца, Селівонаўка |

**Паважаныя пасажыры!**
**У любое надвор'е гарантыя КАМФОРТУ, эканоміі часу і БЯСПЕЧНАЙ паездкі на Мінск і назад БЕЗ СПАЗНЕННЯЎ!**

## Цягнікі рэгіянальных ліній ад 26 кастрычніка 2014

Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі, танцыя Маладзечна УНП 600199541

| Маладзечна-Гудагай | | | | Гудагай-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання цягніка |
| 7031 | **06:23** | 07:38 | Штодз. з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны | 6884 | **05:40** | 07:14 | Штодз. |
| 7033 | **07:38** | 09:08 | Штодз. Мінск-Гудагай, Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Мінск-Паўночны, Ждановічы, далей Маладзечна-Гудагай б/п Гаўцi, Скрэсціны, Каменка | 7032 | **07:57** | 09:11 | Штодз. Гудагай-Мінск Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, далей Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны |
| 6885 | **08:36** | 10:14 | Штодз. | 7034 | **09:36** | 10:50 | Штодз. з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны |
| 6887 | **12:20** | 13:16 | У рабочыя да Смаргоні | 6888 | **10:42** | 12:17 | Штодз. |
| 6971 | **13:40** | 15:16 | У выхадныя | 6890 | **13:49** | 14:41 | У рабочыя са Смаргоні |
| 6889 | **15:50** | 17:26 | Штодз. да Гудагая | 6972 | **15:36** | 17:17 | У выхадныя |
| 6891 | **17:53** | 19:32 | Штодз. | 6892 | **17:50** | 19:28 | Штодз. |
| 7035 | **19:20** | 20:42 | Штодз. з Мінска Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Мінск-Паўночны, Ждановічы, далей Маладзечна-Гудагай з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны | 7036 | **20:34** | 21:51 | Штодз. Гудагай-Мінск Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладзёжны, Маладзечна-Мінск з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-Паўночны |
| 6893 | **20:37** | 22:19 | Штодз. | 6894 | **21:28** | 23:04 | Штодз. |
| Маладзечна-Ліда | | | | Ліда-Маладзечна | | | |
| 6263 | **08:38** | 11:37 | Штодз. | 6264 | **04:08** | 07:11 | Штодз. |
| 6977 | **12:51** | 15:51 | У выхадныя | 6266 | **09:07** | 12:12 | Штодз. |
| 6265 | **18:21** | 21:20 | Штодз. | 6978 | **12:19** | 15:19 | У выхадныя |
| 6267 | **20:32** | 23:30 | Штодз. | 6268 | **16:14** | 19:14 | Штодз. |
| Маладзечна-Крулеўшчына-Полацк | | | | Крулеўшчына-Маладзечна | | | |
| 6682 | **07:26** | 09:17 | У выхадныя да Параф'янава | 6623 | **04:42** | 07:01 | Штодз. адпраўленнем з Глыбокага ў 04:00 |
| 6628 | **08:54** | 11:05 | Штодз. | 6681 | **09:58** | 11:49 | У выхадныя з Параф'янава |
| | | 13:05 | Прыбыццё ў Полацк | 6683 | **15:20** | 17:38 | У выхадныя |
| 6684 | **12:50** | 15:03 | У выхадныя да Крулеўшчыны | 6683 | **17:03** | 17:38 | У рабочыя з Вілейкі |
| 6634 | **16:14** | 16:49 | У рабочыя да Вілейкі | 6627 | **17:34** | 19:45 | Штодз. |
| 6632 | **20:13** | 22:27 | Штодз. | | | 15:37 | Адпраўленне з Полацка |
| | | 23:06 | Прыбыццё ў Глыбокае | | | | |

Прапануем вам расклад руху ШТОДЗЁННАГА РАНІШНЯГА цягніка рэгіянальных ліній БІЗНЕС-КЛАСА

МАЛАДЗЕЧНА-МІНСК: ШТОДЗЁННА раніцай адпраўляецца са станцыі Маладзечна ў **6:38** і прыбывае на станцыю Мінск у **7:37**

ШТОДЗЁННА вечарам адпраўляецца са станцыі Мінск у **18:55** і прыбывае на станцыю Маладзечна ў **19:50**,

а таксама ПА НЯДЗЕЛЯХ вечарам адпраўляецца са станцыі Маладзечна ў **20:25** і прыбывае на станцыю Мінск у **21:20**

ВОЛЬНЫ ЧАС

# Разабралі амаль усе кнігі падчас прэзентацыі ў бібліятэцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Парад новых кніг адбыўся ў нядзелю, 18 студзеня, у бібліятэцы “Верасок”.**

Паступіла больш за 250 кніг розных жанраў: фантастыка, дэтэктывы, жаночыя раманы. Першая частка кніг паступіла ў снежні, але і ў студзені атрымліваем новыя кнігі.

Як адзначыла **Таццяна Чаброўская**, галоўны бібліятэкар цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча, многія кнігі чытачы ўзялі адразу пасля парада кніг.

### Для гурманаў – Лесінг, для аматараў дэтэктываў – Данцова

Творы **Лесінга**, **Сашы Чорнага**, **Харукі Муракамі** бібліятэка прапануе кніжным гурманам. Для тых, хто любіць дэтэктывы, – кнігі **Дар'і Данцовай**, **Галіны Куліковай**, **Наталлі Несцеравай**.

З твораў беларускіх аўтараў карысталіся попытам творы **Людмілы Рублеўскай**, **Наталлі Батраковай**, **Віктара Марціновіча**.

### Усё ў жыцці пачынаецца з кахання і любові

Сярод навінак кніга апавяданняў **Анатоля Бутэвіча** “Пацалунак на фоне гор”. Яна складаецца з 23 апавяданняў. Аўтар кнігі сцвярджае, што ўсё ў жыцці пачынаецца з кахання і любові. І калі мужчына і жанчына сапраўды кахаюць адзін аднаго, то ў іх больш шансаў здзейсніць нешта неверагоднае. У гэтым пісьменнік стараецца пераканаць і чытача.

Каханне і любоў Анатоль Бутэвіч паказвае з розных бакоў: гэта каханне маладых людзей і ўспаміны сталых пра былыя пачуцці, любоў ненароджанага дзіцяці да сваёй маці…

У апавяданні “Пацалунак на фоне гор” мы бачым замалёўку кахання маладых людзей. Іх пачуцці яшчэ нясмелыя, таму каханне ў іх гаворыць пры дапамозе вачэй, нясмелых рухаў, прагай пацалункаў.




Фота eva.ru.

Для аматараў дэтэктываў у бібліятэцы прапануюць кнігі Дар'і Данцовай.

### Каханне можа матэрыялізавацца

У апавяданні “Бяскрылы анёл” пісьменнік паказвае, як можа матэрыялізавацца каханне. Цудам паяднання ён называе Дзіця. Яно з радасцю абвяшчае пра сваё існаванне ва ўлонні маці, марыць, як народзіцца, убачыць вялікі свет. Аднак на любоў дзіцяці маці адказала роспаччу, шкадаваннем і пазбавілася ад сваёй крывіначкі. Пісьменнік бачыць у гэтым праблему для нашага часу, таму паказвае яе не вачамі дарослага чалавека, а спрабуе ўявіць, што адчувае стварэнне, якое толькі зарадзілася.

Некаторыя героі кнігі Анатоля Бутэвіча з іроніяй адносяцца да слоў “каханне і любоў”, але па паводзінах кахаюць нават больш, чым многія з слоў. Вах. Так, Марыя з апавядання “Шкадаўлівая” кпіць над модным словам “любоў”. Не любіла, як яна гаворыць, свайго Ванечку, а шкадавала ўсё жыццё. Пашкадавала ў вайну тады яшчэ маладога, незнаёмага салдата, калі аддала ватоўку. Шкадавала пасля вайны, калі даведалася, што ўсе сваякі загінулі. Суседзі кпілі, што адносіцца да Ванечкі, як да малога дзіцяці. У Марыі ж была іншая логіка: “Э-э, што вы разумееце? Ён мяне так шкадуе, як вашы мужыкі вас не любяць”.

Кніга Анатоля Бутэвіча “Пацалунак на фоне гор” будзе цікавая для людзей, якія любяць разважаць над сэнсам жыцця, якія вераць, што свет складаецца з дзівосаў і парадоксаў, рамантычным людзям.

**Галіна СІНІЦА.**

# Праходжанне Месяцам знакаў задыяка ў 2015 годзе (час мясцовы)

| Знак задыяка | Студзень | | Люты | | Сакавік | | Красавік | | Май | | Чэрвень | | Ліпень | | Жнівень | | Верасень | | Кастрычнік | | Лістапад | | Снежань | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Авен** | **24** | 16:31 | **21** | 2:13 | **20** | 13:27 | **17** | 8:13 | **14** | 8:13 | **10** | 14:13 | **7** | 19:37 | **4** | 2:23 | **27** | 22:28 | **25** | 9:21 | **21** | 18:12 | **19** | 0:26 |
| | | | | | | | | | | | | | | | **31** | 11:32 | | | | | | | | |
| **Цялец** | **26** | 19:37 | **23** | 3:28 | **22** | 13:40 | **19** | 0:31 | **16** | 10:02 | **12** | 17:16 | **9** | 22:49 | **6** | 4:29 | **2** | 12:01 | **27** | 9:07 | **23** | 19:25 | **21** | 3:12 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | **29** | 21:56 | | | | | | |
| **Блізняты** | **1** | 20:08 | **25** | 7:53 | **24** | 16:22 | **21** | 2:27 | **18** | 12:27 | **14** | 20:50 | **12** | 3:16 | **8** | 8:39 | **4** | 14:47 | **1** | 23:03 | **25** | 20:15 | **23** | 5:30 |
| | **29** | 1:36 | | | | | | | | | | | | | | | | | **29** | 9:24 | | | | |
| **Рак** | **4** | 4:07 | **27** | 15:49 | **26** | 22:45 | **23** | 7:25 | **20** | 16:55 | **17** | 1:50 | **14** | 9:14 | **10** | 15:08 | **6** | 20:39 | **4** | 3:21 | **27** | 22:26 | **25** | 8:26 |
| | **31** | 10:08 | | | | | | | | | | | | | | | | | **31** | 12:09 | | | | |
| **Леў** | **6** | 14:02 | **2** | 20:40 | **2** | 2:34 | **25** | 16:12 | **23** | 0:42 | **19** | 9:22 | **16** | 17:14 | **12** | 23:52 | **9** | 5:35 | **6** | 11:30 | **2** | 18:47 | **27** | 13:30 |
| | | | | | **29** | 8:47 | | | | | | | | | | | | | | | **30** | 3:47 | | |
| **Дзева** | **9** | 1:57 | **5** | 8:45 | **4** | 14:57 | **28** | 4:07 | **25** | 11:51 | **21** | 19:58 | **19** | 3:46 | **15** | 10:45 | **11** | 16:55 | **8** | 22:50 | **5** | 5:22 | **2** | 13:09 |
| | | | | | **31** | 21:12 | | | | | | | | | | | | | | | | | **29** | 21:58 |
| **Шалі** | **11** | 14:56 | **7** | 21:43 | **7** | 3:52 | **3** | 10:07 | **28** | 0:42 | **24** | 8:40 | **21** | 16:22 | **17** | 23:22 | **14** | 5:40 | **11** | 11:45 | **7** | 18:14 | **5** | 1:33 |
| | | | | | | | **30** | 17:02 | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **Скарпіён** | **14** | 2:43 | **10** | 10:05 | **9** | 16:09 | **5** | 22:04 | **3** | 4:47 | **26** | 20:56 | **24** | 5:07 | **20** | 12:24 | **16** | 18:42 | **14** | 0:38 | **10** | 7:02 | **7** | 14:25 |
| | | | | | | | | | **30** | 12:33 | | | | | | | | | | | | | | |
| **Стралец** | **16** | 11:00 | **12** | 19:46 | **12** | 2:30 | **8** | 8:08 | **5** | 14:12 | **1** | 21:39 | **26** | 15:24 | **22** | 23:41 | **19** | 6:31 | **16** | 12:18 | **12** | 18:13 | **10** | 1:25 |
| | | | | | | | | | | | **29** | 6:21 | | | | | | | | | | | | |
| **Казярог** | **18** | 15:04 | **15** | 1:24 | **14** | 9:39 | **10** | 15:46 | **7** | 21:16 | **4** | 3:50 | **1** | 12:11 | **25** | 7:21 | **21** | 15:32 | **18** | 21:52 | **15** | 3:21 | **12** | 9:46 |
| | | | | | | | | | | | | | **28** | 21:47 | | | | | | | | | | |
| **Вадалей** | **20** | 15:59 | **17** | 3:13 | **16** | 13:13 | **12** | 20:43 | **10** | 2:21 | **6** | 8:01 | **3** | 15:20 | **27** | 11:03 | **23** | 20:51 | **21** | 4:37 | **17** | 10:24 | **14** | 15:58 |
| | | | | | | | | | | | | | **31** | 0:40 | | | | | | | | | | |
| **Рыбы** | **22** | 15:47 | **19** | 2:47 | **18** | 13:57 | **14** | 23:11 | **12** | 5:53 | **8** | 11:16 | **5** | 17:22 | **2** | 1:36 | **25** | 22:43 | **23** | 8:17 | **19** | 15:21 | **16** | 20:44 |
| | | | | | | | | | | | | | | | **29** | 11:50 | | | | | | | | |

## Квадры Месяца (час мясцовы)

| | Студзень | | Люты | | Сакавік | | Красавік | | Май | | Чэрвень | | Ліпень | | Жнівень | | Верасень | | Кастрычнік | | Лістапад | | Снежань | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Маладзік** | **20** | 16:14 | **19** | 2:48 | **20** | 23:26 | **18** | 21:57 | **18** | 7:14 | **16** | 17:06 | **16** | 4:25 | **14** | 17:54 | **13** | 9:42 | **13** | 3:06 | **11** | 20:48 | **11** | 13:30 |
| **Першая чвэрць** | **27** | 7:49 | **25** | 20:14 | **27** | 10:43 | **26** | 2:56 | **25** | 20:19 | **24** | 14:03 | **24** | 7:05 | **22** | 22:32 | **21** | 12:00 | **20** | 23:32 | **19** | 9:28 | **18** | 18:15 |
| **Поўня** | **5** | 7:54 | **4** | 2:09 | **5** | 21:06 | **4** | 15:06 | **4** | 6:43 | **2** | 19:20 | **2** | 5:21 | **29** | 21:36 | **28** | 5:51 | **27** | 15:06 | **26** | 1:45 | **25** | 14:12 |
| | | | | | | | | | | | | | **31** | 13:44 | | | | | | | | | | |
| **Апошняя чвэрць** | **13** | 12:47 | **12** | 6:51 | **13** | 20:49 | **12** | 6:45 | **11** | 13:37 | **9** | 18:42 | **8** | 23:24 | **7** | 5:03 | **5** | 12:54 | **5** | 0:06 | **3** | 15:24 | **3** | 10:41 |

# Садоўніцтва і агародніцтва ў залежнасці ад фазы Месяца

## Фазы Месяца:

**Маладзік.** Доўжыцца тры дні разам з днём да даты маладзіка і на наступны дзень пасля даты маладзіка.

**1-я квадра.** Час ад маладзіка, калі Месяц нябачны, аж да асвятлення паловы паверхні – Месяц расце.

**2-я квадра.** Перыяд ад асвятлення паловы паверхні Месяца аж да поўні, калі Месяц поўнасцю бачны – Месяц расце.

**Поўня.** Працягваецца тры дні: разам з днём перад датай поўні і днём пасля даты поўні.

**3-я квадра.** Перыяд ад поўні, калі Месяц бачны цалкам, да закрыцця паловы яго паверхні – Месяц меншае.

**4-я квадра.** Ад часу, калі бачна палова паверхні Месяца, да маладзіка, калі Месяц становіцца нябачным – Месяц меншае.

## Калі Месяц меншае (3-я і 4-я квадры)

Лепшы час для перасадкі і абрэзкі дрэў. Расліны хутчэй аднаўляюцца і прыжываюцца на новым месцы, а падрэзаныя губляюць менш сокаў. У гэты час наземныя часткі расліны малаадчувальныя да пашкоджанняў.

Рэкамендуюцца сяўба, пасадка цыбульных раслін, бабовых, караняплодаў, барацьба з пустазеллем і шкоднікамі. Гэта спрыяльны час для збору фруктаў і агародніны, прызначаных на доўгае захоўванне, – яны будуць даўжэй заставацца свежымі. Гэтак жа і са зрэзанымі кветкамі, яны застануцца свежымі даўжэй.

## Калі Месяц расце (1-я і 2-я квадры)

Час спрыяльны для сяўбы і пасадкі ліставой агародніны і пладовых дрэў і кустоў. Добрая пара для падрыхтоўкі расады, прышчэпак і работ, звязаных з глебай, – угнойванне і падкормка. Карані раслін найменш уразлівыя на розныя пашкоджанні. Калі вы рашыліся на абрэзку, то яна не павінна быць вельмі інтэнсіўнай, бо гэта можа стаць прычынай страты раслінай сокаў.

Добры час для збору пладоў і агародніны для непасрэднага спажывання – у гэты час яны маюць найбольшую харчовую вартасць і самыя смачныя. Таксама і на збор зёлак – як траў, так прыпраў і спецый. Яны найбольш пахучыя і карысныя.

**Калі Месяц у поўні.** Сяўба гародніны: капусты, морквы, цыбулі і радыскі. Добры час для пасадкі бульбы, памідораў і г.д. Найлепшы час для ўгнойвання раслін і такіх працэдур, як праполка, барацьба з пустазеллем і шкоднікамі, рыхленне, прарэджванне новых раслін. Не трэба актыўна абразаць дрэвы і кусты, рабіць прышчэпкі. У саму поўню лепш нічога не садзіць і не сеяць.

**Маладзік.** Самы час для эфектыўнай барацьбы з хваробамі раслін, шкоднікамі. Гэта таксама час на знішчэнне пустазелля, хворых і непатрэбных парасткаў. Работы павінны праводзіцца за дзень перад кульмінацыяй маладзіка ці днём пазней, пасля яе.

Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка раслін і любыя працы, якія б маглі пашкодзіць карані (напрыклад, рыхленне).

## Сатанінскія дні

Не займайцеся важнымі агароднымі справамі ў сатанінскія дні, бо вялікага плёну вы не дачакаецеся.

**Гэта 9-ы, 15-ы, 23-ы і 29-ы месяцавыя дні.** У гэтыя дні, раяць астролагі, трэба быць асабліва абачлівымі, не займацца важнымі і адказнымі справамі. Калі гэта спраектаваць на садаводства і агародніцтва, то зразумела, што трэба пазбягаць адказных і важных работ у садзе і агародзе. У першую чаргу гэта сяўба і ўсе работы, звязаныя з закладкай новага ўраджаю. Перачакайце гэты час і зрабіце запланаванае крыху пазней.

| Дзень | Пачатак | | Заканчэнне | |
|---|---|---|---|---|
| | Дата | Час | Дата | Час |
| **Студзень** | | | | |
| **15** | 04.01.2015 | 16:55 | 05.01.2015 | 17:53 |
| **23** | 13.01.2015 | 1:21 | 14.01.2015 | 2:27 |
| **29** | 19.01.2015 | 7:46 | 20.01.2015 | 8:33 |
| **9** | 28.01.2015 | 12:38 | 29.01.2015 | 13:16 |
| **Люты** | | | | |
| **15** | 03.02.2015 | 17:48 | 04.02.2015 | 18:51 |
| **23** | 12.02.2015 | 2:25 | 13.02.2015 | 3:30 |
| **29** | 18.02.2015 | 7:41 | 19.02.2015 | 2:48 |
| **9** | 26.02.2015 | 11:59 | 27.02.2015 | 12:47 |
| **Сакавік** | | | | |
| **15** | 04.03.2015 | 17:47 | 05.03.2015 | 18:51 |
| **23** | 13.03.2015 | 2:20 | 14.03.2015 | 3:18 |
| **29** | 19.03.2015 | 6:37 | 20.03.2015 | 7:06 |
| **9** | 28.03.2015 | 12:32 | 29.03.2015 | 13:33 |
| **Красавік** | | | | |
| **15** | 03.04.2015 | 18:51 | 04.04.2015 | 19:56 |
| **23** | 12.04.2015 | 2:51 | 13.04.2015 | 3:31 |
| **29** | 18.04.2015 | 6:00 | 18.04.2015 | 21:57 |
| **9** | 26.04.2015 | 12:23 | 27.04.2015 | 13:27 |
| **Май** | | | | |
| **15** | 02.05.2015 | 18:50 | 03.05.2015 | 19:57 |
| **23** | 11.05.2015 | 2:08 | 12.05.2015 | 2:38 |
| **29** | 17.05.2015 | 5:00 | 18.05.2015 | 5:37 |
| **9** | 26.05.2015 | 13:22 | 27.05.2015 | 14:26 |
| **Чэрвень** | | | | |
| **15** | 01.06.2015 | 19:55 | 02.06.2015 | 20:59 |
| **23** | 10.06.2015 | 1:39 | 11.06.2015 | 2:04 |
| **29** | 16.06.2015 | 4:58 | 16.06.2015 | 17:06 |
| **9** | 24.06.2015 | 13:16 | 25.06.2015 | 14:20 |
| **15** | 30.06.2015 | 19:45 | 01.07.2015 | 20:41 |
| **Ліпень** | | | | |
| **15** | 30.06.2015 | 19:45 | 01.07.2015 | 20:41 |
| **23** | 09.07.2015 | 0:37 | 10.07.2015 | 1:05 |
| **29** | 15.07.2015 | 4:38 | 16.07.2015 | 4:25 |
| **9** | 23.07.2015 | 13:10 | 24.07.2015 | 14:15 |
| **15** | 29.07.2015 | 19:20 | 30.07.2015 | 20:05 |
| **Жнівень** | | | | |
| **23** | 06.08.2015 | 23:41 | 08.08.2015 | 0:15 |
| **29** | 13.08.2015 | 4:32 | 14.08.2015 | 5:36 |
| **9** | 22.08.2015 | 14:10 | 23.08.2015 | 15:12 |
| **15** | 28.08.2015 | 19:14 | 29.08.2015 | 19:46 |
| **Верасень** | | | | |
| **23** | 05.09.2015 | 23:39 | 07.09.2015 | 0:29 |
| **29** | 12.09.2015 | 5:37 | 13.09.2015 | 6:40 |
| **9** | 21.09.2015 | 14:56 | 22.09.2015 | 15:46 |
| **15** | 27.09.2015 | 18:40 | 28.09.2015 | 19:09 |
| **Кастрычнік** | | | | |
| **23** | 06.10.2015 | 0:18 | 07.10.2015 | 1:21 |
| **29** | 12.10.2015 | 6:40 | 13.10.2015 | 3:06 |
| **9** | 20.10.2015 | 14:26 | 21.10.2015 | 15:05 |
| **15** | 26.10.2015 | 17:34 | 27.10.2015 | 18:05 |
| **Лістапад** | | | | |
| **23** | 04.11.2015 | 0:13 | 05.11.2015 | 1:18 |
| **29** | 10.11.2015 | 6:39 | 11.11.2015 | 7:44 |
| **9** | 19.11.2015 | 14:12 | 20.11.2015 | 14:39 |
| **15** | 25.11.2015 | 17:11 | 26.11.2015 | 17:56 |
| **Снежань** | | | | |
| **23** | 04.01.2015 | 1:14 | 05.01.2015 | 2:17 |
| **29** | 10.01.2015 | 7:40 | 11.01.2015 | 8:40 |
| **9** | 19.01.2015 | 13:38 | 20.01.2015 | 14:04 |
| **15** | 25.01.2015 | 17:28 | 26.01.2015 | 18:29 |

● СТАРЫ АЛЬБОМ

# Жанчына шукае сям'ю, у якой жыла ў вайну ў Вілейцы

**ВІЛЕЙКА. Жыццёвыя абставіны прымушалі сям'ю Дубікоўскіх пераехаць з Мсціслава ў Барысаў, а адтуль – у Вілейку. Там яны жылі ў сям'і Цярпіцкіх. Цяпер Ганна Дубікоўская спрабуе адшукаць іх.**

Вайна напаткала сям'ю Ганны ў Мсціславе. Дзяўчынцы было чатыры гады. Яна жыла разам з бацькам **Міхаілам Дубікоўскім**, маці **Акулінай**, сястрой **Таісай** і братам **Валянцінам**.

### Пераязджалі, каб знайсці лепшую працу

Бацька Ганны ваяваў у другой расійска-фінскай вайне (1921-1922). Быў танкістам, на вайне яго цяжка паранілі. Таму не прызвалі ў час Другой сусветнай.

У пошуках працы сям'я пераехала ў Барысаў. А ў 1943 годзе – у Вілейку. Там каля двух гадоў жылі ў палякаў па прозвішчы **Цярпіцкія**. Ганна не памятае, чаму менавіта там жылі, мяркуе, што пасялілі за плату. Узгадвае, што яны жылі на беразе Віліі. Побач жыў рыбак **Платон**.

– Бабуля ўзгадвае, што ў Цярпіцкіх збіраліся партызаны Машэрава, – расказвае ўнук Ганны Дубікоўскай **Андрэй Пылінскі**. – Ён таксама прапаноўваў прадзеду ўступіць у атрад. Аднак той адмовіўся. Бабуля таксама расказвала, што аднойчы іх папярэджвалі, што партызаны будуць паліць лес, прасілі сысці. Так і адбылося.



Фота забяспечана Андрэем ПЫЛІНСКІМ.

Сям'я Цярпіцкіх: Лёдзя, Ядзя, Стэфан (з гармонікам), Ганна (справа ад пудзіла).

### Трапілі ў канцлагер Равенсбрук

У 1944 годзе сям'ю Дубікоўскіх арыштавалі і накіравалі ў канцлагер Равенсбрук. Міхаіл Дубікоўскі знік без вестак у Еўропе, калі яго перасылалі з аднаго канцлагера ў другі. А Ганне Дубікоўскай, яе маці і сястры Таісе ўдалося выратавацца, калі вызвалялі людзей з канцлагера. Яны вярнуліся ў Мсціслаў.

– Пасля вайны жылі звычайна, – расказвае Андрэй Пылінскі. – Усе выраслі, вучыліся, працавалі. Бабуля працавала на малочным камбінаце. Цяпер жыве ў Полацку.

Бабулі Андрэя Пылінскага Ганне Дубікоўскай 77 гадоў. Яна хоча знайсці сям'ю Цярпіцкіх. Калі нехта ведае, дзе цяпер знаходзіцца сям'я Цярпіцкіх ці гэту гісторыю, звяртайцеся ў рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" альбо пішыце Андрэю Пылінскаму на электронны адрас: stroyka11@tut.by.

**Галіна СІНІЦА.**

**Даведка "РГ". Равенсбрук** – канцлагер, які размяшчаўся на паўночным ускодзе Германіі, у 90 кіламетрах ад Берліна. Існаваў ад мая 1939 года да канца красавіка 1945 года. Гэта адзін з буйнейшых канцлагераў Германіі. Колькасць зарэгістраваных зняволеных за ўвесь час яго існавання – больш за 130 тысяч чалавек. Лагер складаўся з галоўнага і дадатковых лагераў. У галоўным знаходзіліся толькі жанчыны. Ён быў разлічаны на шэсць тысяч месцаў. У красавіку 1941 года быў невялікі мужчынскі лагер на 350 зняволеных. Яны працавалі ў прамысловых бараках, таксама іх выкарыстоўвалі ў ваеннай прамысловасці. Ад 1942 года на зняволеных праводзілі медыцынскія эксперыменты.

● КАЛЯНДАР

**23 студзеня.** 1884 год. Нарадзіўся Францішак Будзька (в. Вознаўшчына, Вілейскі павет, Віленская губерня), рымска-каталіцкі святар, культурна-асветны дзеяч, пісьменнік, перакладчык. Першым пачаў перакладаць каталіцкую літаратуру на беларускую мову, быў адным з першых беларускіх прапаведнікаў. Ён пашыраў свядомасць між студэнтаў духоўных семінарый. Марыў пра адраджэнне Уніі, і атрымаў для заснавання грэка-каталіцкай семінарыі брылянтавае кальe ад Магдалены Радзівіл. Памёр 2 лютага 1920 года ва ўзросце 36 год.

***

**1889 год.** У Чылі памёр Ігнат Дамейка, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху, філамат, геолаг, мінеролаг, нацыянальны герой Чылі. Правёў большую частку жыцця і памёр у Чылі, але займаў важнае месца ў навуцы і культуры Беларусі, Літвы, Польшчы. Дапамагаў Міцкевічу, з якім жыў, перапісваць паэму "Пан Тадэвуш" (паслужыў прататыпам эканома Жэготы, аднаго з герояў паэмы). Склаў геаграфічную, геалагічную і эканамічную карту былых земляў Рэчы Паспалітай і напісаў да яе шырокія каментары.

***

**24 студзеня.** 130 гадоў з дня нараджэння Юрыя Тарыча (сапр. Аляксееў, 1885 – 1967), беларускага кінарэжысёра, сцэнарыста, заснавальніка беларускай мастацкай кінематаграфіі. У 1926 годзе зняў (сумесна з Яўгенам Івановым-Барковым) першы беларускі мастацкі фільм "Лясная быль" па аповесці Міхася Чарота "Свінапас". Дзень яго прэм'еры (26 снежня 1926 г.) у мінскім кінатэатры "Культура" лічыцца пачаткам беларускага кіно.

***

**120 гадоў** з дня ўводу ў дзеянне (1895) першай электрастанцыі ў Мінску.

***

**1904 год.** Нарадзіўся Янка Шутовіч (в. Шутавічы, цяпер Смаргонскі р-н), грамадска-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнаўца, вязень савецкіх канцлагераў.

***

**25 студзеня.** 1804 год. Нарадзіўся Антон Адынец (в. Гейстуны, цяпер Ашмянскі раён), польскі паэт, філамат, перакладчык, выдавец.

***

**26 студзеня.** 25 гадоў назад (1990) прыняты Закон "Аб мовах у Беларускай ССР".

***

**1907 год.** Нарадзіўся Мікалай Лапіцкі (в. Грэлікі, цяпер Вілейскі раён), праваслаўны святар, рэлігійна-грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

● АСОБЫ

# Ушанавалі памяць героя Монтэ-Касіна Пётры Сыча

*Заканчэнне. Пачатак у №2.*

**ВІЛЕЙКА. Мемарыяльную дошку ў яго гонар асвяцілі 29 лістапада ў вёсцы Лукавец Хаценчыцкага сельсавета.**

### Аўтар твора "Смерць і салаўі" пра бой пад Монтэ-Касіна.

Пётра Сыч быў пісьменнікам, публіцыстам, паэтам, мастаком і маляром з задаткамі да скульптуры. Жыццёвыя нягоды білі моцна нашага Петруся. Дзесьці ў глыбіні душы ён да канца сваіх дзён насіў крыўду на свой лёс, які разлучыў яго назаўсёды з самымі блізкімі і роднымі яму людзьмі, з Радзімай, за якую ваяваў, праліваючы кроў, і цудам застаўся жывым.

Пра перажытае пад Монтэ-Касіна Пётра Сыч наважыўся распавесці толькі напрыканцы жыцця ў кнізе "Смерць і салаўі". Пётра Сыч пісаў: "І беларусы шчодра абмылі сваёй крывёю шурпатыя, дзікія горы пад манастыром Монтэ-Касіна". Беларусы разам з палякамі, як ніхто іншы, маюць права на лаўры перамогі ў бітве пад Монтэ-Касіна.

Кніга Пётры Сыча "Смерць і салаўі" займае ў беларускай гістарычнай літаратуры асаблівае месца. Гэта адзіны твор, напісаны непасрэдным удзельнікам штурму ўзвышша Касіна. Беларус Пётра Сыч услявіў подзвіг суайчыннікаў, як паляк **Мельхіёр Ваньковіч** услявіў мужнасць польскіх жаўнераў, напісаўшы кнігу "Бітва за Монтэ-Касіна". Гэтая акалічнасць надае твору Пётры Сыча яшчэ большую каштоўнасць і актуальнасць у наш час.

### Расстрэл замянілі на 25 год лагера: савецкая падзяка салдатам Монтэ-Касіна

Нарыс Пётры Сыча "Смерць і салаўі" прысвечаны адной з вызначальных стратэгічных аперацый Другой сусветнай вайны – бітве пад Монтэ-Касіна ў студзені-маі 1944 года. У Беларусі, як і ўвогуле ў савецкай гістарыяграфіі мінулай вайны, бітва пад Монтэ-Касіна замоўчвалася. Так, напрыклад, у артыкуле БелСЭ "Другая сусветная вайна" падзеі пад Монтэ-Касіна нават не згадваюцца. А між тым супраць фашыстаў там ваявалі тысячы беларусаў – салдатаў і афіцэраў Другога корпуса генерала Андэрса.

Не вярнуўся на Радзіму Пётра Сыч толькі таму, што цудоўна ведаў, што яго чакае. Усе так званыя "ворагі народа", якія патрапілі з бальшавіцкага лагерна-га "рая" ў корпус генерала Андэрса і пасля перамогі вярнуліся на Радзіму, зноў апынуліся ў сталінскіх лагерах.

Для прыкладу проста неабходна нагадаць хоць некалькі прозвішчаў нашых землякоў, якія атрымалі бальшавіцкую "ўзнагароду" за ўдзел у Монта-касінскай мясарубцы ў 1944 годзе.

Вось іх імёны:

1. Брацук А.С. 1912 г.н., вёска Андрэйкі, Мядзельскі раён. Прысуд: 9 лютага 1950 года, 10 год лагера.

2. Касцюк С.І. 1900 г.н., вёска Матыкі, Крывіцкі раён. Прысуд: 20 верасня 1950 года, 10 год лагера.

3. Дзіковіч І.С. – 1882 г.н., вёска Чаромушкі, Пастаўскі раён. Прысуд: 14 кастрычніка 1950 года, расстрэл заменены на 25 год лагера.

4. Жамойдзін І.І. – 1915 г.н., вёска Узбалаць-3, Валожынскі раён. Прысуд: 8 снежня 1950 года, 10 год лагера.

### Не даведаўся пра рэпрэсіі родных

Памёр Пётра Сыч у Германіі і пахаваны ў горадзе Мюнхен 20 чэрвеня 1964 года. Ён так і не даведаўся, праз якія бальшавіцкія жорны прыйшлося прайсці яго сямейству тут, на Радзіме.

А яго сямейству на змену ваенным жахам прыйшлі пасляваенныя, рэпрэсіўныя. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**

27 СТУДЗЕНЯ – МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ АХВЯР ГАЛАКОСТУ

# 12 яўрэяў хавалі ад фашыстаў на печы

## Сын Праведніка свету ўпершыню распавядае, як яго сям'я ратавала сям'ю Хеўліных з Даўгінава

**ВІЛЕЙКА. Юльян Кур'яновіч, што дапамог выжыць яўрэйскай сям'і, так і не ўбачыў высокую ўзнагароду: тытул атрымаў пасмяротна, ганаровы медаль і сертыфікат прыняў сын. А яго, які рызыкаваў жыццямі сваіх дзяцей, пасля вайны асудзілі на 25 год за садзейнічанне нямецкім акупантам.**

З пяці тысяч яўрэяў з даўгінаўскага гета пасля дзвюх фашысцкіх чыстак засталося 278. Пад камандаваннем партызана **Мікалая Кісялёва** перайшлі праз фронт 218. Але каб і столькі сабралася, спатрэбілася рызыкаваць і хавацца, спадзявацца на дапамогу аднавяскоўцаў.

Сярод іх сям'я Кур'яновічаў выратавала 12 жыццяў.

– Добра, што вёска была дружная, не выдалі, а так усё было б нашай сям'і, – распавядае Віктар Юльянавіч. – Такая рызыка, ну, вы ж падумайце толькі!

### Да вайны не жыццё, а катарга

Кур'яновічы жылі ў вёсцы Замошша, што ў двух кіламетрах ад Мільчы і ў васьмі ад Даўгінава. Яны месціліся побач з польска-савецкай мяжой.

У доме жылі бацька Юльян, два яго браты, сястра-калека, бабуля, жонка і Віктар з сястрой.

Пра даваенны час Віктар Юльянавіч гаворыць коратка: не жыццё, а катарга. Ніякай тэхнікі, за службу атрымлівалі малыя грошы.

Яўрэй Лейба Хеўлін меў магазін.

– Ён з бацькам сябраваў, часам начаваў у нас, – прыгадвае Віктар Кур'яновіч. – Некаторыя думалі, што бацька за золата іх ратаваў. У іх жа нічога не было! Лейбаў цесць рыззё збіраў па вёсках, мяняў на свае тавары. Якое там золата.

### Кінуў дзіця назад у агонь

Першага немца ў 1941 годзе ў Замошшы Віктар Юльянавіч памятае добра:

– Прыляцеў на кані з Даўгінава. Ніхто ж слова не знаў па-нямецку, што яму трэба было. Балбоча, а што? Прывезлі з суседняй вёскі бабу, што знала па-нямецку і па-яўрэйску. Аказваецца, немец загадаў ці не тры быкі з калгаса ў Даўгінава завесці. Каб не яна, то хто яго ведае, як бы было.

Немцы зямлю пакінулі за тымі гаспадарамі, што былі пры Польшчы. Патрабавалі сплачваць падаткі прадуктамі, ды і проста адбіралі. Бацьку Віктара Кур'яновіча прызначылі солтысам.

У 1942 годзе фашысты знішчалі мясцовых яўрэяў. У першы пагром сагналі і спалілі 3,5 тысячы, у другі – 1,5 тысячы. Віктар Юльянавіч на свае вочы гэта не бачыў.

**Але былі відавочцы, што расказвалі і пра тое, як прымушалі танцаваць аголеных дзяўчат, якіх пасля кінулі ў агонь, і пра тое, як адна маці выкінула з ахопленага полымем будынка дзіця,
а фашыст узяў яго за нагу і ўкінуў назад.**

– Гэта ж звяры! – выбухнуў мужчына. – Гэта людзей гнаць і паліць! І не толькі ж немцы былі ў паліцаях, былі і нашы. Хай бы з-за фронту болей падкінулі разведчыкаў. Ноччу ж можна было яўрэям сказаць, каб уцякалі ў кусты.

### Як ратавалі яўрэяў

Частка яўрэяў з даўгінаўскага гета змагла ўратавацца – тыя, каму хапіла смеласці і шанцавання кінуцца ў кусты і схавацца. Ніводны з тых, каго сагналі ў пуню, уцячы не змог. Мужчына шкадуе, што яўрэі не накінуліся і не раззброілі паліцаяў, бо было шмат маладых і здаровых мужчын, якія маглі б адолець катаў.

Юльян Кур'яновіч змог у Даўгінаве пасадзіць на воз 12 чалавек сям'і Лейбы Хеўліна. Усю сям'ю схавалі дома на печы. Калі б іх знайшлі фашысты, забілі б і Хеўліных, і Кур'яновічаў.

У Замошша было дзве дарогі. Адзін пад'езд пільнавала сястра, другі – Віктар, якому тады было 12 год. Як дзеці ўбачаць немцаў, павінны былі папярэдзіць яўрэяў, каб тыя праз заднія дзверы пайшлі ў балота.

– Але знайшлі б іх і ў балоце, каб падказалі, – дадае мужчына.

Пазней Юльян пераправіў іх у большую вёску, Слабаду, дзе дамовіўся з сябрамі, сям'ёй Гараніных. Там Хеўліны жылі ў лазні. Гаспадыня насіла ім ежу ў вядры, нібыта свінням.

– Надта небяспечная работа, – прыгадвае Віктар. – Ганька Гараніна казала, што не бяда, калі немцы забілі б, шкадавала сына Федзю, гадоў дзесяць яму было.

Са Слабады яўрэяў на конях завезлі пад Ізбішча да кіраўніка партызанскага атрада "Мсціўца" Кісялёва.

### "Усе мы былі вельмі жорсткія"

Мікалай Кісялёў прыняў на сябе адказнасць правесці выжыўшых за лінію фронту. Поспех апераацыі быў малаверагодны, ісці даялося тры месяцы. Тыя, хто выжыў, і праз паўстагоддзя бачаць у Кісялёве звышчалавечую іскрынку. Ён нёс на руках дзяўчынку, якую мама ўжо завяла ў рэчку тапіць, бо яна ўвесь час плакала і магла падставіць усіх. Ён аддаў свайго каня аднаногаму чалавеку, якому цяжка было ісці.

Пра гэты паход сведкі падрабязна распавядаюць у дакументальным фільме "Спіс Кісялёва".

З успамінаў сына Лейбы Шымона Хеўліна, якому тады было 14 год: "Я захварэў, з-за мяне ўсе пачалі марудна ісці. Людзі пачалі гаварыць, каб пакінуць мяне ў лесе. Усе мы былі вельмі жорсткія ад жудаснага нашага жыцця, і многія не хацелі думаць пра іншых.

**Тады мама сказала, хай яе таксама застрэляць разам са мной.**

Прыйшоў Кісялёў і сказаў, каб працягвалі ісці. У час нашага шляху было шмат страшных гісторый. Цяпер я разумею, што шмат хто проста губляў разуменне чалавека з-за ўсёй сітуацыі".

Бабулі Шымона асколкам бомбы параніла нагу. І доктара не было, каб вылечыць. Лейба ўзяў яе на рукі, але колькі ж адзін пранясеш. Праз нейкі час вырашылі кінуць жанчыну. Яе напаткалі партызаны, выратавалі, яна ім усю вайну хлеб пякла. А пасля вайны першая з яўрэяў вярнулася ў Даўгінава.

### Пасадзілі за спрэчку з кэгэбістам

Юльян пытаўся ў партызан пра лёс атрада Кісялёва, пытаўся пра Лейбу. Тыя нічога не маглі адказаць, і мужчына "аж злаваў".

Пасля вайны ён працаваў з адным службістам, які знайшоў таго, хто б падпісаў ілжывы данос. Будучага Праведніка свету прыгаварылі да 25 год за нібыта садзейнічанне нямецкім акупантам.

– Меў дакумент партызанскі, але знайшоўся адзін, набалбатаў кэгэбісту, што ў арміі не быў, падпісаў, што таму трэба было, – успамінае Віктар. – Быў не страявы, бо кульгаў, таму не на фронце, а аж ва Уладзівасток у шахты загналі.

Юльян сядзеў пяць год. Калі памёр Сталін, прыслаў ліст: "Цяпер мы хутка ўбачымся". У 1965 годзе яго рэабілітавалі.

### Тая печ так і стаіць

Пасля вайны было цяжка, у калгасах не плацілі. Так што адной працай на зямлі пракарміцца было не проста. Віктар Юльянавіч майстраваў папулярныя ў ваколіцы шафы, валёнкі валіў, пазней пайшоў шаферам.

Таму і пра тытул Праведніка свету разважае з погляду перажытага – ім пасля вайны была б дарэчы сустрэчная падтрымка. А цяпер што – толькі ўспамінаць. З усёй сям'і, што жыла ў вайну, застаўся ў жывых адзін ён.

Сын Лейбы Шыман ажаніўся з Таісай, дачкой Гараніных, што ратавалі яго сям'ю ў Слабадзе. Ён і падаў сведчанне, каб Юльяну Кур'яновічу далі тытул Праведніка свету. Імя Юльяна выбіта на Дошцы гонару ў Садзе Праведнікаў у Іерусаліме каля імя Кісялёва.

Віктар мае двух сыноў, дзве ўнучкі. Жыве ў суседняй Мільчы.

Дом Кур'яновічаў у Замошшы стаіць і цяпер. Стаіць і печка, на якой беларуская сям'я цаной жыцця ратавала яўрэйскую.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Віктар Кур'яновіч на фоне дома ў Замошшы, дзе ў вайну ратавалі яўрэйскую сям'ю. Распавядае, як яны з сястрой каравулілі. Ён глядзеў у адзін бок дарогі, яна ў іншы, каб, заўважыўшы немцаў, паспець папярэдзіць.**

### Забілі за золата

Падчас размовы з карэспандэнтамі "РГ" жыхары Мільчы Віктар Кур'яновіч і **Пётр Цыгалка** прыгадалі гісторыю пра аднавяскоўца.

У той час, калі некаторыя, рызыкуючы жыццём сваім і сваіх родных, ратавалі ад Галакосту, адзін мясцовы жыхар прапанаваў двум яўрэйкам схавацца ў яго. Жанчыны нейкі час перабылі ў лазні.

З суседняй вёскі, што да вайны была ў Савецкай Беларусі, зламыснік паклікаў сваяка. Разам яны задушылі яўрэек і скралі іх золата.

Пасля вайны парэшткі іх цел знайшлі, але крымінальную справу не заводзілі. Аднак у вёсцы працуе свая пракуратура – пра той учынак гавораць і сёння.

### Праведнікі свету ў рэгіёне

**33 чалавекі з нашага рэгіёна атрымалі тытул Праведнікаў народаў свету. У Беларусі іх 601 чалавек, у свеце каля 25 тысяч.**

**АСТРАВЕЦ.** Ян Сялевіч, Варняны. Ратаваў Цві Барадоўскага.

**ВАЛОЖЫН.** Іван і Антаніна Навадворскія, Валожын. Ратавалі сем'і Лавітаў і Годэсаў.

Аліма і Браніслаў Пажарыцкія, вёска Гіневічы. Ратавалі сям'ю Грынгаўзаў.

**ВІЛЕЙКА.** Анастасія і Андрэй Уладыкі, Саблінка. Ратавалі Раісу Баршчэву.

Пётр, Фёдар, Ганна Гараніны з Даўгінава. Ратавалі сям'ю Хеўліных.

Юльян Кур'яновіч, Даўгінава. Ратаваў Хеўліных.

Генадзь Сафонаў, Ілья. Ратаваў Ёхельмана, Саламянскага, Захаравых.

**МЯДЗЕЛ.** Баляслава, Ванда, Юзаф і Цаліна Анішкевічы, вёска Зосіна. Ратавалі сям'ю Славіных.

Іван Валай, вёска Кабыльнікі. Ратаваў Фрыдманаў, Эфраіма Краўчынскага.

Адольф Жалубоўскі, Нарач. Ратаваў Фрыдмана Юдзіта і Краўкера Ашара.

Ванда Скуратовіч, Зосіна. Ратавала сям'ю Славіных.

Ёзаф Тункевіч, Нарач. Ратаваў Каплана Чарнецкага.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аляксандра і Аляксандр Бельскія з Маладзечанскага раёна. Ратавалі сям'ю Бабкісаў.

Вольга, Анатоль і Іосіф Сарокі, Маладзечанскі раён. Ратавалі сям'ю Бабкісаў.

Антон Шніп, Маладзечанскі раён. Ратаваў сям'ю Бабкісаў.

Галіна і Уладзімір Імшэнік, Насілава. Ратавалі Алену Жодзінскую.

Антаніна і Іван Карповічы, вёска Сакольнікі. Ратавалі Валянціну Казакевіч.

Вольга Куліна, Радашкавічы. Ратавала Барыса Левітана.

Іван Крупіч, Радашкавічы. Ратаваў Марыю Боршч.

Іосіф Пясецкі, Радашкавічы. Ратаваў Марыю Боршч.




Фота fc-smorgon.by.

Гісторыя клуба, якая пачынаецца з 1987 года, не спыніцца.

● ФУТБОЛ

# “Смаргонь” будзе гуляць у першай лізе

**СМАРГОНЬ. У Беларускую федэрацыю футбола 19 студзеня адправілі ліст, якім футбольны клуб “Смаргонь” пацвярджае свой удзел у чэмпіянаце Беларусі сярод камандаў першай лігі 2015 года. Пра гэта паведамляе афіцыйны сайт клуба.**

Нагадаем, што раней заўзятары “Смаргоні” агучвалі інфармацыю пра праблемы з фінансаваннем клуба на наступны сезон.

Тым часам нападаючы “Смаргоні” **Мікалай Рындзюк** рыхтуецца да старту трэнерскай кар’еры, піша offside.by.

Сёння Рындзюк лічыцца гульцом каманды. Кантракт у яго заканчваецца 1 лютага. У 36-гадовага футбаліста маецца прынцыповая дамоўленасць з клубам аб тым, што пасля заканчэння тэрміну дзеяння пагаднення Рындзюк пяройдзе на трэнерскую працу ў камандзе. Разглядаецца таксама варыянт, пры якім Мікалай будзе гуляючым настаўнікам “Смаргоні”.

Па словах Мікалая Рындзюка, цяпер пытанне ўжо не стаіць такім чынам, што клуб можа спыніць існаванне.

Аддзел інфармацыі.

## Як гуляла “Смаргонь” у апошнія гады

У 2010 годзе футбольны клуб “Смаргонь” заняў 12-е месца ў першай лізе чэмпіянату Беларусі. У 2011 – 11-е, у 2012 – 10-е месца.

У 2013 годзе каманда са Смаргоні была шостая. Летась клуб завяршыў сезон на чацвертым месцы.

● НАВІНЫ

## Смаргонцы – у вышэйшую, гульцы з Астраўца і Ашмянаў – у першую лігу

**СМАРГОНЬ, АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ.** Завяршыліся гульні ў групе “Поўнач” у чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе.

У апошнім туры 17 студзеня смаргонская “Вілія” гуляла з “Ашмянамі” і выйграла 11:8. “Меліяратар” з Астраўца саступіў “Воранава” 6:10.

“Вілія” з 13 ачкамі заняла другое месца ў групе. “Меліяратар” на трэцім (3 ачкі). Столькі ж на рахунку “Ашмянаў”. Аднак па дадатковых паказчыках яны апынуліся на апошнім месцы.

“Вілія” разам з камандай “Воранава” ўвайшла ў вышэйшую лігу чэмпіянату. Медалі там разыграюць восем камандаў.

“Меліяратар” і “Ашмяны” разам з яшчэ чатырма камандамі працягнуць барацьбу ў першай лізе.

## Дзе – разгром, дзе – упартая барацьба

**МЯДЗЕЛ.** У фізкультурна-аздараўленчым цэнтра 14 студзеня прадоўжыліся гульні чэмпіянату раёна па міні-футболе.

Каманда аддзелаў райвыканкама сустракалася з “Юніёрам”, дзе гуляюць мядзельскія школьнікі. Моладзь аказала ўпартае супраціўленне дарослым: саступіла камандзе аддзелаў усяго адзін мяч – 1:2.

Прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму прайгралі “Алімпіку” з лікам 1:9. Яшчэ больш разгром у гэты дзень зафіксавалі ў матчы паміж камандамі індывідуальных прадпрымальнікаў “Мядзел” і райваенкамата – 15:0.

Прадстаўнікі Крывіцкага сельсавета 17 студзеня напачатку вялі два галы ў сустрэчы з “Лідарам”. Потым прапусцілі 5. Адпаведна фінальны лік – 2:5, расказаў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

## Турнір па валейболе выйгралі выратавальнікі

**ВІЛЕЙКА.** Калядны турнір па валейболе сярод мужчынскіх камандаў прайшоў у Вілейцы 16-17 студзеня. У турніры прынялі ўдзел сем камандаў, распавёў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы “Сатурн” **Аляксандр Вайда.**

Падзеленыя яны былі на дзве падгрупы. Па дзве лепшыя каманды з кожнай сфарміравалі чацвёрку, дзе працягнулі барацьбу за прызавыя месцы.

Перамагла каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях. Яна абыграла ўсіх сапернікаў з лікам 2:0 па партыях.

На другім месцы прадстаўнікі Вілейскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі. На трэцім – каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму.

## Вілейскія каратысты ўзялі срэбра і бронзу ў Расіі

**ВІЛЕЙКА.** У горадзе Шчолкава ля Масквы 18 студзеня прайшло адкрытае першынство Маскоўскай вобласці па каратэ.

У спаборніцтвах прынялі ўдзел амаль 600 спартсменаў з 40 клубаў Масквы і Маскоўскай вобласці, Санкт-Пецярбурга, Уладзіміра, Варонежа, Калугі і іншых гарадоў Расіі. Таксама ўдзельнічалі беларусы.

У складзе клуба “Алімп” з Мінска ў чэмпіянаце выступалі два віляйчаніны.

**Мікіта Кірыевіч** заняў трэцяе месца ва ўзроставай катэгорыі 14-15 год.

**Павел Кірыевіч** узняўся на прыступку вышэй. Ён заняў другое месца сярод спартсменаў 16-17 год, паведаміў трэнер клуба “Самурай” з Вілейкі **Сяргей Кірыевіч.**

Алесь ВЫСОЦКІ.

● ГАРАДОШНЫ СПОРТ

# Асноўныя вынікі 2014 года

**МАЛАДЗЕЧНА. Галоўнай падзеяй мінулага сезона стаў чэмпіянат свету, які быў праведзены ў Маскве ў другой палове жніўня.**

Спартсмены з адзінаццаці краін (мужчыны асобна, жанчыны асобна) спаборнічалі па трох разнавіднасцях “гарадкоў”: усім добра вядомых класічных, а таксама еўрапейскім варыянце і фінскай “кюкке”.

Беларускае выступленне найбольш запомнілася ў камандным турніры сярод мужчын па класічных гарадках. Упершыню за ўсе гады ўдзелу наша зборная рэальна прэтэндавала на чэмпіёнства. У фінале супраць гаспадароў са зборнай Расіі-1 лік быў нічыйным 2,5:2,5. Згодна з рэгламентам, была прызначаная дадатковая, так званая булітная партыя. Яна скончылася на карысць сапернікаў, прычым, па назіраннях нашых трэнераў, ужо нават суддзі былі гатовыя пры неабходнасці прыйсці на дапамогу расіянам.

Падчас групавога турніру нашы перамаглі Расію-2 з лікам 3:0, мелі нічыю супраць Расіі-1 (2,5:2,5), саступілі Украіне 0:3. Па колькасці набраных ачкоў занялі другое месца і атрымалі права згуляць у фінале. У складзе было шэсць спартсменаў. Гэта **Генадзь Сушко, Эдуард Лобач, Дзмітры Шайко, Іван Найдовіч, Дзмітры Душкевіч, Антон Драздовіч** (усе яны з Маладзечна).

У мужчынскім асабовым турніры перамог 39-гадовы расіянін **Аляксеў Елісееў**. У жаночым асабовым турніры лепшай стала беларуска **Галіна Жаваранкава**, прадстаўніца горада Бярозаўкі. З партнёркамі па камандзе **Таццянай Яршэвіч, Аляксандрай Мельнікавай і Ларысай Казловай** (усе з Маладзечна) выдатна прадставіла нашу краіну сярод жаночых камандаў. Перамаглі сапернiц у групавым турніры, а потым у фінале Расію-1 з лікам 2:0.

## Што праводзілася ў нас

Міжнародны кубак Рэспублікі Беларусь прайшоў напрыканцы красавіка, ён пераняў эстафету ў традыцыйнага турніру памяці ахвяраў Чарнобыльскай трагедыі. Як заўсёды, маладзечанцы-гаспадары добра паклапаціліся аб усіх арганізацыйных момантах.

У асабовым чэмпіянаце краіны перамогу каторы ўжо раз атрымаў **Генадзь Сушко**. У камандным чэмпіянаце краіны таксама пераможца традыцыйны – гэта калектыў з Маладзечанскіх электрасетак, прызёрамі сталі салігорскі “Шахцёр” і мінскі “Аўтасіб”.

Таксама мінулы год запомніцца цікавым новаўвядзеннем. Простым аматарам, якія не могуць дазволіць сабе пастаянныя трэніроўкі, была дадзеная магчымасць паспаборнічаць па спрошчанай схеме. Яны кідалі біту з блізкай адлегласці, з паўкона. Гэты турнір усім вельмі спадабаўся.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

● ГАЛАСАВАННЕ

# Лепшага спартсмена краіны выберуць самі заўзятары

**РЭГІЁН. Прагаласаваць за лепшага спартсмена, каманду і трэнера можна на сайце прэміі “Трыумф” – www.triumph.by.**

Ад 10 да 31 студзеня 2015 сярод заўзятараў праходзіць галасаванне за прэтэндэнтаў на званне лаўрэатаў конкурсу ў намінацыях “Каманда года”, “Спартсмен года”, “Спартсменка года”, і “Трэнер года”.

**Антон Кушнір, Андрэй Краўчанка, Віталь Бубновіч** і іншыя прафесіяналы сталі намінантамі прэміі “Спартсмен года”. Сярод лепшых спартсменак – **Дар’я Домрачава, Меліціна Станюта, Надзея Скардзіна, Ала Цупер** і іншыя.

Змагаюцца за званне лепшага трэнера **Мікалай Казека, Таццяна Нянашава, Юры Шаўцоў** і іншыя.



Фота tut.by

Ці стане Дар’я Домрачава лепшай спартсменкай 2014 года?

Лепшых у намінацыях “За волю да перамогі”, “Прарыў года”, “Вынік года” і “Самы яркі спартыўны момант года” вызначыць прафесійнае журы конкурсу.

Аддзел інфармацыі.

# Камент-эксперт

Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Дырэктар вілейскага каледжа: "Ад пяці год купаюся зімой"

Хаця ў сваім жыцці пакланяюся і схіляюся перад адзінай асобай – Ісусам Хрыстом, але і ты дастойны павагі! Гасподзь даў табе многа дастойных якасцяў! ***Галіна Станкевіч.***

### ФК "Маладзечна-2013" ліквідуецца. На рэспубліканскіх спаборніцтвах горад прадставіць каманда ДЮСШ-4

Наталля Тур – лепшы аўтар. Усе яе артыкулы – супер. Брава. ***Эдгард.***

Ведаеце, Вышынскі ўжо не паказвае такі вынік, які ў яго быў пару год таму, узрост бярэ сваё. А дарогу трэба даваць маладым хлопцам, якія жывуць футболам і гатовыя гуляць і бясплатна, таму што для іх футбол – гэта жыццё. Я глядзела ўсе гульні ДЮСШ-4, магу сказаць, што гэта каманда выглядае на ўсіх гульнях паважна як дома, так і на выездах. Веру ў хлопцаў і ўпэўненая, што яны пакажуць вынік. ***Фанатка.***

### Сёння вецер сарваў шыфер са сховішча для агародніны ў Любані на Вілейшчыне

ХАхА… Чаму ж не сарве гэты дах… Ён жа не замацаваны нічым на страсе… Відаць, шабашнікі за паўцаны зляпілі. ***Паўтара Івана.***

### У Івянецкім сельсавеце стала меней на тры вёскі

Жудасна, так і жывём… ***Міхаіл.***

### Ідзе суд "Экадома" супраць "Вялес-Міт" па справе свінакомплексаў

Дзякуй, што вялі анлайн! Чакаем працягу. ***Tyz.***

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Хітрыкі мадам завірухі"** (музычная казка), *Людміла Вайнова*
25 студзеня – у 12:00
29 студзеня – у 11:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. **"Нязваны госць" (ну, ве-е-ельмі сур'ёзная камедыя)**, *Святлана Бартохава*
23 студзеня – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Вакзал на траіх"** (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
25 студзеня – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Афінскія вечары"** (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*
29 студзеня – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Залатая табакерка"** (жартаўлівая казка), *А.Плютава*
25 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27.**
УНП 600136804

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 1 | | 9 | | | | | |
| | 3 | | 1 | | 5 | | | |
| 5 | | 4 | | 6 | 8 | 2 | | |
| | | 5 | | | | | 6 | |
| 8 | | | | | | | | 4 |
| | 9 | | | | | 1 | | |
| | | 9 | 7 | 2 | | 8 | | 1 |
| | | | 5 | | 3 | | 4 | |
| | | | | | 1 | | 9 | 3 |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйныя прыгоды **"Снежная каралева 2: Перазамарозка"**, 3D (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
25 студзеня – у 15:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыйная камедыя **"Тры багатыры: Ход канём"**, 3D (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 студзеня – у 19:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, сямейны **"Прыгоды Падынгтона"** (Францыя, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
24 студзеня – у 15:00
25 студзеня – у 13:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя, сямейны **"Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы"** (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
23 студзеня – у 20:00
24 студзеня – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
25 студзеня – у 17:00
26, 28 студзеня – у 21:00
29 студзеня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя **"8 новых спатканняў"** (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
23 студзеня – у 18:00
23 студзеня – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
24 студзеня – у 20:00
25, 27 студзеня – у 21:00
26 студзеня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды **"Хобіт: Бітва пяці войскаў"**, 3D (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28 студзеня – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя **"Пінгвіны Мадагаскара"**, 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
24 студзеня – у 13:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Гістарычная драма **"Зыход: Цары і багі"**, 3D (ЗША, Іспанія, Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24 студзеня – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Навагодняя камедыя, драма **"Ёлкі 1914"** (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
27 студзеня – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, сямейны **"Ёлкі махнатыя"** (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
29 студзеня – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер, крымінал, драма **"Рабаванне па-амерыканску"** (ЗША, Расія, 2014, з 16 год)
29 студзеня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Індыкі: Назад у будучыню"** (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
24, 25 студзеня – у 15:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Прыгоды **"Цімур і каманда"** (Беларусь, 2014, без узроставых абмежаванняў)
23, 24, 25 студзеня – у 17:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Драма **"Трэба жыць"** (Беларусь, 2014, з 16 год)
24, 27, 29 студзеня – у 19:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Баявік **"Тры дні на забойства"** (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
23, 25 студзеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя **"Танцуй адсюль"** (Вялікабрытанія, 2014, з 16 год)
23, 25 студзеня – у 19:30
24, 26 студзеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя **"Прыгажуні ў Парыжы"** (Францыя, 2013, з 18 год)
27, 28 студзеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Драма **"Ракавая жарсць"** (ЗША, 2013, з 16 год)
28 студзеня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыйная меладрама **"Кахаю тваю жонку"** (Канада, 2013, з 16 год)
29 студзеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

**Тэл. : 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма **"Я не вярнуся"** (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
23, 25 студзеня – у 17:30
24 студзеня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Баявік **"13 раён: Цагляныя асабнякі"** (Францыя, з 16 год)
23, 24, 25 студзеня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя **"Прыгоды маленькіх італьянцаў"** (ЗША, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
24 студзеня – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Анімацыя **"Рыф"** (Паўднёвая Карэя, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
25 студзеня – у 14:30
Цана білета – 15 000 рублёў

Казка **"І я там быў"** (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28, 29 студзеня – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Трылер **"Мёрзлая зямля"** (ЗША, з 16 год)
28, 29 студзеня – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя **"8 новых спатканняў"** (2D, Расія, з 16 год)
23, 25 студзеня – у 18:00
28 студзеня – у 20:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя, сямейны **"Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы"** (2D, ЗША, Вялікабрытанія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
23, 25 студзеня – у 20:30
24 студзеня – у 19:00
28 студзеня – у 18:00
Цана білета – 45 000 руб.

Камедыя, сямейны **"Прыгоды Падынгтона"** (2D, Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
24 студзеня – у 14:30
25 студзеня – у 16:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя, камедыя **"Тры багатыры: Ход канём"** (3D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
24 студзеня – у 17:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Драма **"Зыход: Цары і багі"** (3D, Вялікабрытанія, ЗША, Іспанія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
24 студзеня – у 21:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды **"Снежная каралева-2: Перазамарозка"** (3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
25 студзеня – у 14:30
Цана білета – 25 000 рублёў

Камедыя **"Ёлкі махнатыя"** (2D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога).
29 студзеня – у 18:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Трылер, крымінал, драма **"Рабаванне па-амерыканску"** (2D, ЗША, Расія, з 16 год)
29 студзеня – у 20:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59.**

## ГАРАСКОП 23-29 СТУДЗЕНЯ

**Авен.** Вам супрацьпаказаныя мітусня і спешка. Трымайце свае эмоцыі пад кантролем. І знайдзіце час, каб разабрацца ў сваім думках і пачуццях.

**Цялец.** У вас насычаныя дні. Вам падабаецца. Вы з усяго гэтага зробіце высновы і здзейсніце штосьці новае для сябе. Абмяжуйце толькі пустыя забавы, бо гэта і бюджэт зберажэ, і засцеражэ ад непрадбачаных сітуацый.

**Блізняты.** Вы поўныя аптымізму і гатовыя ствараць нешта новае. Не адмаўляйце сабе ў гэтым задавальненні. Важна, каб вашы справы і ўчынкі былі накіраваныя на стварэнне, толькі тады ўдача гарантаваная.

**Рак.** Будзьце гатовыя да вялікіх пераменаў у жыцці. Адзінокія могуць сустрэць чалавека, з якім у згодзе пражывуць усё жыццё.

**Леў.** Вас больш за ўсё будзе займаць прафесійная дзейнасць і новыя ідэі. Ці варта накіроўваць усе сілы толькі на работу, вырашаць вам. Але не пакідайце без увагі і іншыя жыццёвыя аспекты.

**Дзева.** У вас з'явіцца новая работа ці нейкі цікавы занятак, здольны захапіць вам цалкам і поўнасцю. І гэта добра. Зоркі кажуць, што станоўчыя эмоцыі вам гарантаваныя. Каб не ўзнік канфлікт – стрымлівайце рэўнасць, праяўляйце больш даверу.

**Шалі.** Вы адчуваеце сябе пакінутымі. Але гэта не так. Проста эмацыйны фон некалькі паніжаны, таму здаецца ўсё змрочным і не такім вясёлым. Гэта часова.

**Скарпіён.** Калі вам дрэнна – займіцеся генеральнай уборкай дома. І не бойцеся дызайнерскіх рашэнняў, бо змена звыклага інтэр'ера пойдзе на карысць.

**Стралец.** Вам захочацца дапамагчы іншым людзям, але будзьце стрыманыя ў сваім парыве, інакш вам сядуць на шыю. Не спрабуйце рабіць больш, чым можаце.

**Казярог.** У вас могуць змяніцца планы, узнікне неабходнасць паездкі ці сустрэчы з кімсьці. Калі не будзе ніякіх перашкодаў, то едзьце, сустракайцеся.

**Вадалей.** Вучыцеся нейкі час расслабляцца і ні пра што не думаць. Ідэі, якія пасля прыходзяць, увасабляйце ў жыццё. Зоркі на вашым баку.

**Рыбы.** Вас можа захапіць каханне, падобнае на сон. Перад вамі адкрываюцца новыя магчымасці – не ўпусціце іх.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар
**+375 (29) 67-68-420,**
на e-mail **regionnews@rh.by**
або пакінь каментар на
**Rh.by**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**24 студзеня, субота**

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 / -1 | 0 / -1 | 0 / -1 | -2 / -4 |
| | 743 ↖ 3 | 741 → 3 | 743 ↙ 2 | 745 ← 3 |
| Вільня | -1 / 0 | -1 / -1 | -2 / -2 | -5 / 0 |
| | 752 ↙ 4 | 751 ↙ 4 | 752 ↓ 4 | 752 ↗ 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі. Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, заход па Маладзечне.

Усход 9.13
Захад 17.36
Даўжыня дня 8.23

Усход 10.45
Захад 23.23
Квадра 1




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Нарач** (Купа)

- Мінімальная тэмпература -23,8 °C у 2010 годзе
- Максімальная тэмпература +3,9 °C у 2002 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 4,3 мм у 2009 годзе

Назіранні за 13 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **У бочцы з якога дрэва бондар з Маладзечна раіць квасіць капусту і саліць грыбы. І якая якасць характару проста неабходная, каб працаваць з дрэвам.**









### АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙШЧЫНЫ


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Другое жыццё старых рэчаў. Тое, што раней выкідвалі на сметнік, пры некаторай фантазіі зухаватага гаспадара вёскі Руччо робіцца элементамі лубочна-ландшафтнага дызайна.**









### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Чым вы харчуецеся ў абед?



**Юры Цімошка, будаўнік:**

– На абед абавязкова бяру ссабойку: мяса, салату, чай і пячэнне. Ссабойку збіраю сам альбо мама. Гэта больш выгадна, чым хадзіць у сталовую.



**Таіса Гушчонак, пенсіянерка:**

– Калі працавала, то заўсёды хадзіла ў сталовую абедаць. Было нядорага і вельмі смачна. Цяпер на пенсіі, таму гатую сама. Звычайна гэта суп, рыба. Мяса многа не ем – узрост не дазваляе.



**Дзмітры Сапоцька, кіроўца:**

– Працую кіроўцам, і часу не хапае на паўнацэнны абед. Таму збіраю звечара ссабойку: катлеты, бульбу, салату. Калі не паспеў сабраць ссабойку, прыходзіцца перакусваць тым, што набыў па дарозе.



**Кацярына Палякова, пенсіянерка:**

– У маладосці часам збірала на работу ссабойку, а часам хадзіла ў сталовую – па-рознаму атрымлівалася. Цяпер, калі на пенсіі, то ў абед ем суп, кашу, мясныя стравы. Магу паласавацца нечым салодкім.



**Наталля Лавыш, навучэнка:**

– На вучобу бяру з сабой пячэнне альбо куплю булачкі. Такія ссабойкі дапамагаюць зэканоміць грошы і не адчуць голаду. Калі ж прыходжу дадому, то маю паўнацэнны абед.



**Віталь Кобзеў, аператар тэхнічнай лініі:**

– На работу бяру ссабойкі – гэта тое, што было прыгатаванае звечара. Аднак я думаю, што так нават даражэй, чым у сталовай. Бо тады набіраеш з сабой больш, чым з'еў бы ў сталовай.



**Настасся Барэйка, журналістка:**

– Абедаю ў сталовай. Бяру суп, другую страву. Выходзіць не вельмі дорага – ад 20 да 30 тысяч за абед.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 4 (1030) 23.01.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 86. Падпісана ў друк у 9.00 22.01.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.